ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№7 (88)
ліпень
2018 год

CATHOLICNEWS.BY

# У Пагошчы асвечаныя крыж і касцёл

Стар. 7

## Вынікі першага туру ўступнага экзамена ў Вышэйшыя духоўныя семінарыі ў Гродне і Пінску


Стар. 4

## Ці выступае рэлігія супраць навукі?


Стар. 13

## Што рабіць, калі на адпачынку няма касцёла?


Стар. 11




# Апублікавана праграма візіту Папы ў краіны Балтыі

## 22-25 верасня 2018 года

**5 ліпеня 2018 года Зала друку апублікавала афіцыйную праграму Апостальскага падарожжа Папы Францішка ў краіны Балтыі. Візіт Святога Айца ў Літву, Латвію і Эстонію запланаваны на 22-25 верасня 2018 года.**

**Раніцай 22 верасня** 2018 года самалёт італьянскай авіякампаніі "Alitalia" са Святым Айцом на борце вылеціць з Рыма ў напрамку літоўскай сталіцы і ўжо каля 11.30 прызямліцца ў міжнародным аэрапорце Вільнюса. Там адбудзецца ўрачыстая цырымонія прывітання Пантыфіка, адразу пасля якой Папа адправіцца ў Прэзідэнцкі палац, дзе сустрэнецца з кіраўніком Літвы і іншымі прадстаўнікамі органаў улады, грамадзянскай супольнасці і дыпламатычнага корпусу.

**У другой палове дня** Папа Францішак наведае вільнюскі санктуарый Маці Божай Вастрабрамскай, дзе памоліцца перад цудатворным марыйным абразом і сустрэнецца з моладдзю на плошчы перад святыняй.

**Раніцай наступнага дня, 23 верасня** Папа накіруецца ў Каўнас, дзе ў мясцовым парку "Santakos" узначаліць нядзельную св. Імшу, якая завяршыцца сумеснай малітвай "Анёл Панскі".

**На другую палову дня** запланавана сустрэча Папы Францішка са святарамі, законнікамі і законніцамі, кансэкраванымі асобамі і семінарыстамі ў катэдральным саборы Каўнаса.

**Пасля гэтага Святы Айцец вернецца ў Вільнюс**, дзе завяршыць афіцыйную праграму літоўскага этапу падарожжа наведваннем Музея акупацыі і барацьбы за свабоду і кароткай малітвай за ўсіх ахвяр вайны.

**24 верасня 2018 года** Святы Айцец вылеціць у Латвію. Каля паловы дзявятай раніцы самалёт з Пантыфікам прызямліцца ў міжнародным аэрапорце Рыгі.

Пасля цырымоніі прывітання Папа Францішак накіруецца ў Прэзідэнцкі палац для сустрэчы з латвійскім лідарам і іншымі прадстаўнікамі палітычнай улады, з чальцамі грамадзянскай супольнасці і дыпкорпусу.

Затым запланавана цырымонія ўскладання вянкоў да помніка Свабоды – манумента ў памяць пра загінулых змагароў за незалежнасць Латвіі.

Далейшая праграма прадугледжвае экуменічную сустрэчу Папы Францішка ў рыжскім Домскім кафедральным саборы, а пасля яе – візіт Святога Айца ў сабор св. Якуба.

**Пасля абеду Папа Францішак на верталёце накіруецца ў санктуарый Маці Божай Аглонскай.** Там ён узначаліць Эўхарыстыю, падчас якой прамовіць казанне да вернікаў. Пасля св. Імшы Папа вернецца ў Рыгу, а адтуль на самалёце – у Вільнюс.

25 верасня 2018 года каля 10.00 Францішак прыбудзе ў Талін. Пасля традыцыйнага прывітання ён правядзе сустрэчу з Прэзідэнтам Эстоніі, прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці і дыпкорпусу ў Прэзідэнцкім палацы.

Акрамя таго, праграма візіту Папы ў Эстонію прадугледжвае экуменічную сустрэчу з моладдзю ў лютэранскай царкве св. Карла, сустрэчу з супрацоўнікамі каталіцкіх дабрачынных арганізацый у катэдральным касцёле святых Пятра і Паўла.

Затым Францішак узначаліць св. Імшу на плошчы Свабоды Таліна, пасля якой развітаецца з эстонскімі вернікамі і накіруецца ў аэрапорт, адкуль каля сёмай гадзіны вечара вылеціць у Рым. У 21.20 самалёт з Пантыфікам на борце прызямліцца ў рымскім аэрапорце "Ciampino".

Візіт у балтыйскія краіны стане для Францішка ўжо 23-м падарожжам за межы Італіі.

*Беларуская рэдакцыя*
***Vatican News***

# Папа ўзначаліў кансісторый: сем новых святых

**19 ліпеня 2018 года Францішак узначаліў Звычайны кансісторый па кананізацыйных справах. Ён пачаўся цэлебрацыяй Літургіі гадзін.**

Было абвешчана, што кананізацыя сямі благаслаўлёных пройдзе ў Ватыкане 14 кастрычніка.

Святымі будуць абвешчаны: 19-гадовы італьянец Нунцыа Сульпіцыа; папа Павел VI; арцыбіскуп Сан-Сальвадора Оскар Арнульфа Рамэра, які прыняў пакутніцкую смерць ад рук баевікоў з нянавісці да веры ў 1980 г.; кс. Францэска Спінэлі, дыяцэзіяльны святар, заснавальнік Інстытута СясцёрАдаратаракНайсвяцейшага Сакрамэнту; дыяцэзіяльны святар, кс. Вінчэнца Рамана; Марыя Катарына Каспер, заснавальніца манаскага Інстытута Бедных Служак Езуса Хрыста; Назарыя Ігнасія ад святой Тэрэзы ад Езуса, заснавальніца Кангрэгацыі Сясцёр Місіянерак "Cruzadas de la Iglesia".

Раней Папа даручыў Кангрэгацыі па справах Кананізацыі публікацыю дэкрэтаў аб пакутніцтве або сапраўднасці цудаў, здзейсненых праз заступніцтва гэтых благаслаўлёных.





# Дзень візіту Папы ў Латвіі будзе выхадным

21 чэрвеня Сейм Латвійскай Рэспублікі прыняў папраўкі ў Законе "Аб святочных і памятных днях". Згодна з імі ў гэтым годзе 24 верасня, калі ў Латвіі будзе знаходзіцца Папа Рымскі Францішак, будзе афіцыйны выходны дзень, каб усе, хто жадае ўдзельнічаць у святой Імшы ў Аглоне, мелі б такую магчымасць.

Як ужо паведамлялася, падчас візіту ў Балтыйскія краіны адным з пунктаў прыпынку Папы будзе Аглонская базіліка, дзе ён адслужыць святую Імшу.

*Інфармацыйны цэнтр Латвійскага Рыма-Каталіцкага Касцёла*

# Цэнтр “Светач” у Бягомлі адзначыў другую гадавіну сваёй працы

**“Светач” быў створаны ў 2016 годзе як Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст*; **Леанід Юрык**, *фота*




Гэта першая падобная ўстанова ў краіне, якая створана пры непасрэднай падтрымцы Рыма-Каталіцкага Касцёла. Працуе яна пры парафіі Хрыста Валадара Сусвету ў Бягомлі.

Урачыстасці з гэтай нагоды адбыліся ў суботу, 7 ліпеня. У іх прынялі ўдзел кіраўнікі і супрацоўнікі Цэнтра, рэабілітанты, што зараз тут знаходзяцца, а таксама тыя, хто раней прайшоў праз гэтую ўстанову. Госці прыехалі ў Бягомль на сустрэчу як родныя людзі.

> **“за два гады праз Цэнтр прайшло больш за 35 чалавек, і амаль палова з іх працягвае весці цвярозы лад жыцця”**

Распачалася імпрэза Імшой у капліцы Хрыста Валадара Сусвету. Набажэнства па просьбе пробашча парафіі айца Тадэвуша Кавальскага ўзначаліў ксёндз Мікалай Ціхановіч, Глыбоцкі дэкан, які быў запрошаны на святкаванне ў якасці ганаровага госця.

У сваім вітальным слове святар заклікаў упусціць у свае сэрцы Бога, прыняць Яго, як гэта ў свой час зрабіла Марыя. І тады з малых спраў зробяцца вялікія рэчы. Гэтую тэму ксёндз працягнуў і ў сваім казанні, якое было прысвечанае Божаму Слову пра старое і новае ў жыцці, што чыталася на Імшы.

“Нам трэба мяняць свой светапогляд, – адзначыў ксёндз Мікалай, – нельга ўвесь час жыць толькі старым, трэба прыняць тое новае, што дае нам жыццё. Асабліва гэта тычыцца людзей залежных, якія павінны змяніць свае адносіны да старога і адкрываць сябе на тое новае, што дае ім жыццё без алкаголю або наркотыкаў.

Наша цела – гэта храм Духа Святога, таму, упускаючы Бога ў сваю душу, мы тым самым дазваляем Яму мяняць нас да лепшага. І важна зразумець, што гэту працу мы павінны зрабіць самі, зрабіць яе разам з Хрыстом, іншыя людзі гэта за нас не зробяць, яны могуць толькі дапамагчы нам на нашым нялёгкім, але важным шляху”.

Гэту ж тэму святар развіў і на духоўнай канферэнцыі, якая адбылася ў Цэнтры адразу пасля Імшы. А распачалася канферэнцыя гімнам Цэнтра ў выкананні яго кіраўніка Уладзіміра Шчэпіна.

Спадар Уладзімір знайшоў некалькі цёплых слоў для кожнага ўдзельніка сустрэчы. Ён адзначыў, што за два гады праз Цэнтр прайшло больш за 35 чалавек, і амаль палова з іх працягвае весці цвярозы лад жыцця. Гэта вельмі добры паказчык.

Пасля духоўнай канферэнцыі адбыліся заняткі з псіхолагамі, а пасля ўсіх чакалі шашлыкі на свежым паветры, якія, аказваецца, можна спажываць і без моцных напояў.

Як кажуць кіраўнікі і арганізатары Цэнтра Таццяна і Уладзімір Шчэпіны, кожны, хто звяртаецца да іх па дапамогу, яе атрымлівае. Яны не дзеляць людзей па ўзросце, поле, веравызнанні і нацыянальнасці. “Мы самі ў свой час прайшлі праз гэту праблему, ведаем яе знутры, таму хочацца падзяліцца сваім вопытам з іншымі людзьмі, – адзначае Уладзімір Шчэпін, – бо, дапамагаючы іншым, мы таксама ўмацоўваемся ў сваім жаданні і надалей жыць цвяроза”.

Выйсце з тупіка заўсёды ёсць, тут усё залежыць ад жадання чалавека. Застаецца толькі парадавацца за людзей, якія яго знайшлі, і пажадаць Цэнтру поспехаў у яго такой патрэбнай працы!

# Урачыстасць у Гальшанах

**23 чэрвеня ў парафіі Святога Яна Хрысціцеля ў гістарычных Гальшанах (Ашмянскі дэканат) адбыліся дзве важныя падзеі: юбілейныя мерапрыемствы з нагоды 400-годдзя гальшанскага касцёла і парафіяльная ўрачыстасць Святога Яна Хрысціцеля (апекуна парафіі).**

**Францішак Літвіновіч**, *Ашмяны – Гальшаны (Гродзенская дыяцэзія)*



Паводле гістарычных звестак, касцёл у імя Святога Яна Хрысціцеля быў заснаваны яшчэ ў XV стагоддзі князем Гальшанскім. У 1618-м годзе Павел Сапега, Ашмянскі стараста (з 1623-га года – падканцлер ВКЛ), тагачасны ўладальнік замка і мястэчка, запрасіў у Гальшаны айцоў-францішканаў канвенцыяльных, для якіх пры касцёле ўзвялі кляштар. Касцёл пры гэтым быў капітальна перабудаваны і асвечаны 6 жніўня 1618 года.

Сучасны выгляд храм набыў у 1770-я гады, калі зноў яго перабудавалі, амаль ад падмуркаў. Кляштар францішканаў быў ліквідаваны паводле царскага загаду ад 19 ліпеня 1832 года.

У другой палове XX стагоддзя ў часы ваяўнічага атэізму касцёл зачынілі на доўгі час. І нават статус помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння не выратаваў святыню ад занядбання.

Гальшанская парафія, якая заўсёды ўваходзіла ў Ашмянскі дэканат, адрадзілася 2 жніўня 1990 года, і сюды вярнуліся францішканe. Пробашчам парафіі ў цяперашні час з'яўляецца айцец Багуслаў Вайтовіч OFM conv.

Да юбілейных урачыстасцяў у парафіі вялася вялікая падрыхтоўчая праца. З нагоды юбілею ў Гальшаны прыехалі многія святары і вернікі з розных рэгіёнаў краіны, а таксама госці з Польшчы. Ва ўрачыстасцях удзельнічалі і прадстаўнікі мясцовай улады. Усіх прысутных прывітаў ксёндз-пробашч Багуслаў Вайтовіч. Выпускніца Гальшанскай школы Вікторыя Янушкевіч падрыхтавала і прачытала матэрыял пра гісторыю касцёла.

Удзельнікі ўрачыстасці сардэчна віталі біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандра Кашкевіча. Іерарх прыбыў у Гальшаны, каб узначаліць урачыстую святую Імшу. У сваёй гаміліі біскуп Аляксандр спыніўся на складанай гісторыі гальшанскага касцёла, а таксама на постаці Святога Яна Хрысціцеля – апекуна парафіі.

Пасля святой Імшы вакол касцёла прайшла працэсія, а перад касцёлам быў асвечаны новы крыж.

Свята скончылася тэатралізаванай пастаноўкай і канцэртнай праграмай.

# Вынікі першага туру ўступнага экзамена ў Вышэйшыя духоўныя семінарыі ў Гродне і Пінску

**18 ліпеня ў будынку Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі ў Мінску адбыўся першы тур уступнага экзамена для кандыдатаў на першы год навучання ў Вышэйшых духоўных семінарыях у Гродне і ў Пінску, паведамляе Catholic.by.**




Экзаменацыйныя пытанні датычыліся Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, жыцця Паўсюднага і лакальнага Касцёла, яго структуры з мэтай лепш ацаніць зацікаўленасць кандыдатаў тым, як жыве Касцёл. Акрамя таго, кандыдатам трэба было растлумачыць матывы свайго выбару следаваць за Хрыстом, які кліча іх да працы ў Хрыстовай аўчарні ў якасці святароў.

Экзамен прымала экзаменацыйная камісія ў складзе:

**Старшыня камісіі –** біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, старшыня камісіі па справах фармацыі семінарыстаў і святароў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі;

ксёндз Віталій Вайцяхоўскі, рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне;

ксёндз Мікалай Ціхановіч, біскупскі вікарый па справах паклікання і семінарыстаў Віцебскай дыяцэзіі;

ксёндз Павел Эйсмант, куратар 1-га курсу.

З важнай прычыны падчас першага туру адсутнічаў прадстаўнік Пінскай дыяцэзіі, які таксама быў прызначаны ў склад экзаменацыйнай камісіі.

Пасля пісьмовай часткі экзамена кандыдаты сустрэліся з адным з членаў камісіі на кваліфікацыйнай размове.

Экзаменацыйная камісія, праінфармаваўшы пра сваё рашэнне кожнага дыяцэзіяльнага біскупа, з чыіх дыяцэзій паходзяць кандыдаты, і атрымаўшы іхняе бласлаўленне і згоду, паведамляе, што новымі навучэнцамі семінарыі ў Гродне сталі:

**Гродзенская дыяцэзія:**
**Марцін Лудзіч** *(парафія Божага Цела, Крамяніца)*
**Дзмітрый Роўны** *(парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, Новы Двор)*
**Павел Таўкінь** *(парафія Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, Мураваная Ашмянка)*
**Мінска-Магілёўская архідыяцэзія:**
**Павел Леановіч** *(парафія Беззаганнага Зачацця Панны Марыі, Бабруйск)*
**Віцебская дыяцэзія:**
**Антон Тышко** *(парафія Святой Тройцы, Глыбокае)*
**Андрэй Януль** *(парафія Божай Міласэрнасці, Пагошча)*

Новым навучэнцам семінарыі ў Пінску стаў:
**АляксейЗаічанка** *(парафія Св. Карла Барамея і Св. Бэнэдыкта, Пінск)*

**Другі тур** уступнага экзамена ў Вышэйшыя духоўныя семінарыі ў Гродне і Пінску адбудзецца 13–14 жніўня па адрасе: г. Мінск, вул. Кальцова, 153.

**Кандыдаты ў семінарыю павінны прадставіць наступныя дакументы:**

Уласнаручна напісаная заява аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння.

Уласнаручна напісаная аўтабіяграфія.

Атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы.

Сертыфікаты трох ЦТ (цэнтралізаванага тэставання): 1) беларуская / руская мова; 2) замежная мова; 3) гісторыя Беларусі / сусветная гісторыя / грамадазнаўства.

Пасведчанне аб хросце.

Пасведчанне аб канфірмацыі.

Пасведчанне аб удзеле ў катэхезе.

Характарыстыка ад пробашча; запоўненая анкета і дадзеныя кандыдата.

Характарыстыка ад катэхета.

Медыцынская даведка для паступлення ў ВНУ (форма №1 здр/у-10).

Пашпарт і яго ксеракопія (старонкі 31–33).

Ваенны білет або прыпісное пасведчанне (яго ксеракопія).

4 фотаздымкі (3х4 см).

Кандыдат павінен быць католікам-практыкам (не менш за тры гады) і валодаць неабходнымі якасцямі для будучага святарскага служэння.

Па ўсіх пытаннях звяртацца да куратара – кс. магістра ліцэнзіята Паўла Эйсманта – па тэл.: **+375 (33) 687 19 53**.

Усіх зацікаўленых сардэчна запрашаем на ўступны экзамен у жніўні і просім усіх людзей добрай волі аб малітве ў інтэнцыі новых і святых пакліканняў да святарства.

*Catholic.by*

# Ці можна піць, захоўваць, выліваць, падмешваць у ежу святую ваду?

**Як і для чага выкарыстоўваць асвечаную ваду, ці можна праводзіць з ёй якія-небудзь рытуалы? Тлумачыць святар.**

Ці можна піць святую ваду? Гэтае пытанне адно з папулярных у пошукавых сістэмах. А пошук малюнкаў па тэматычным запыце перш за ўсё выдае кроплі для вачэй са "святой вады"... На тэму асвечанай вады размаўляем з гомельскім каталіцкім святаром Андрэем Багдановічам.



– Асвечаная вада, галоўным чынам, служыць для таго, каб акрапляць ёю памяшканні, прадметы і самых сябе. Калі вернікі прыносяць з касцёла асвечаную ваду, то захоўваюць яе, перш за ўсё, для таго, каб змочваць пальцы і рабіць знак крыжа пры выхадзе з дому з малітвай, каб Госпад захаваў ад усялякага зла. Таксама асвечанай вадой мы акрапляем сваё жыллё. Калі прыйшла пара прынесці з храма новую асвечаную ваду, а ў нас яшчэ засталася старая, яе можна выліць, але не ў каналізацыю, а на зямлю – у тыя месцы, дзе ніхто не ходзіць, месцы асаблівага шанавання: напрыклад, на магілках, пад крыжам альбо ў кветнік.

Для адказу ж на пытанне "Ці можна піць асвечаную ваду?" важна спытаць у сябе: "А для чаго? З якой мэтай?".

– У заходняй традыцыі няма звычаю піць асвечаную ваду. Пра гэта кажа і каталіцкая энцыклапедыя. Але ў жыцці розных святых сустракаліся абрады, звязаныя з ужываннем вады. Асвечаная вада можа стаць дапамогай для дзеяння Божай ласкі, для дапамогі ў веры і нават для лячэння. Аднак неабходнай умовай для гэтага з'яўляецца наша адкрытасць для прыняцця Божай дапамогі і правільная іерархія, якая выяўляецца ў тым, што мы ўпэўненыя ў ацаляльным дзеянні Бога ў сакрамантах, а асвечаная вада можа дапамагчы нам да гэтых сакрамантаў падрыхтавацца.

Піць ці як-небудзь выкарыстоўваць асвечаную ваду для здзяйснення рытуалаў або якіхсьці іншых магічных дзеянняў нельга: робячы так, мы паступаем як язычнікі і адыходзім ад хрысціянскай веры.

Напрыклад, некаторыя ўпотай падліваюць асвечаную ваду ў суп свайму мужу, каб той кінуў піць. Хтосьці сам п'е такую ваду з мэтай ацалення ад пэўнай хваробы. Такім чынам выкарыстоўваць асвечаную ваду не трэба.

– Можна маліцца пра аздараўленне, ужываючы пры гэтым асвечаную ваду, але думаць пра тое, што "чым больш вып'ю, тым больш падзейнічае", – памылка. Не трэба піць асвечаную ваду літрамі, досыць глытка. А вось верыць трэба як мага больш: у тое, што Госпад можа вылечыць, дапамагчы, здзейсніць цуд з дапамогай вады.

Адзначым, што важна разумець адрозненні паміж сакрамантамі (гэта Хрост, Канфірмацыя, Эўхарыстыя, Пакаянне, Намашчэнне хворых, Пасвячэнне, Сужэнства) і сакраманталіямі. Да апошніх якраз належыць асвячэнне вады.

– Праз сакраманталіі таксама дзейнічае Хрыстус, але не ў такой ступені, як праз сакраманты, – піша ў сваім артыкуле айцец Аляксандр Жарнасек. – Калі мы разумеем адрозненне паміж сакрамантамі і сакраманталіямі, то многае залежыць ад нашай веры. У Евангеллі чытаем, што ў Назарэце Езус не мог учыніць ніякага цуду праз няверʼе людзей у Яго Божую сілу. Калі мы паводле вучэння Каталіцкага Касцёла верым у сем сакрамантаў, значыць, саўдзельнічаючы ў веры Касцёла, атрымліваем сілу і ласку, якую Езус перадаў Касцёлу.

Вядома, калі мы верым у сілу асвечанай вады, Пан дзейнічае праз яе, але гэта кропля ў моры ў параўнанні з тым, калі мы ад усяго сэрца паверым у асаблівую прысутнасць Госпада ў святых сакрамантах.

Гаворка не пра тое, што сакраманталіі няважныя, але каб усталявалася належная іерархія. Гэта значыць, напрыклад, што ўдзел у Эўхарыстыі значна важнейшы, чым проста малітва з выкарыстаннем асвечанай вады.

*katolik.life*

# Побач з ёй мы станавіліся лепшымі...

**15 чэрвеня жыхары вуліцы Савецкай у Варапаеве рыхтаваліся да вялікай ўрачыстасці: спаўнялася 90 гадоў адной са старэйшых жыхарак – Бярнардзе Аўгусцінаўне Ракіце.**

**Аліна Латыш**, *ад імя ўсіх суседзяў з вуліцы Савецкай*

Тут яе ведалі ўжо амаль чатыры дзесяцігоддзі, з таго часу, калі гэта вуліца забудоўвалася. Тады і цёця Бярнарда пераехала з мужам сюды ў новую хату.

Суседзі і пляменнікі рыхтаваліся віншаваць яе, але за тыдзень да дня нараджэння ціха, спакойна, нікога не патурбаваўшы, яна адышла ў іншы свет. У апошні момант, калі, здавалася, была без прытомнасці, перахрысцілася двойчы...

Яе біяграфія досыць тыповая. Нарадзілася яна ў вёсцы Фяркі ў 1928 годзе. У сям'і, акрамя яе, былі дзве дачкі (адна неўзабаве памерла) і сын. Бацька памёр, калі сыну быў толькі месяц. Маці як магла адна падымала дзяцей, таму дзяўчаты вельмі рана пайшлі працаваць. Ездзілі ў лес па дровы, наймаліся жаць іншым гаспадарам. Працавалі цяжка, каб зарабіць на хлеб, бо ў калгасе амаль нічога на працадні не выдавалі. Маладая Бярнарда спачатку была на чыгунцы align рознарабочай (адпрацавала там восем гадоў), потым уладкавалася ў хлебапякарню. Хоць гэта было даўно, але некалькі варапаеўцаў прызналіся, што такога смачнага хлеба, як той, што рабіла ў сваю змену Бярнарда, яны ніколі не елі. "І боханы – адзін у адзін, роўненькія", – дадавалі землякі. На хлебапякарні яна адпрацавала пятнаццаць гадоў, пасля да пенсіі шчыравала ў цэху па вырабе крэслаў Варапаеўскага ДАКа.

Але і на пенсіі Бярнарда ніколі не сядзела склаўшы рукі. Для суседзяў яна заўсёды была "палачкай-выручалачкай". Да нас звычайна прыходзіла ў жніўні. "Вера, калі жаць пачнеце?" – пыталася ў маёй мамы. І ў вызначаны дзень раніцай ужо стаяла ў нашым панадворку з сярпом, шчыра працавала з намі да канца жніва. Суседка Валянціна Бараноўская дадае: "Мне яна дапамагала ва ўсім. Дзяцей маіх даглядала. Яны вернуцца са школы – і адразу бягуць да яе: "Бабуля Барнася, мы баімся адны. Хадзі да нас". І яна была з імі, пакуль мы з мужам не вярталіся з працы. Патрэбна грошы пазычыць – іду да яе. Каму якая іншая патрэба – не адмаўляла, рабіла ўсё, што толькі магла. А як дапамагала пасля таго, як я трапіла ў аварыю!.. Для мяне яна сапраўдная другая маці!.."

Пра яе ахвярнасць, імкненне дапамагчы казала і пляменніца Марыя: "У маім дзяцінстве мама працавала тэхнічкай у школе, тата таксама быў на працы, а садка ў Ціунцах не было. На дапамогу заўсёды прыходзіла цёця. Пасля начной змены на хлебазаводзе, не адпачыўшы як след, яна бегла ў Ціунцы, каб глядзець мяне. Я ж тады не разумела, што ёй хочацца прылегчы, падрамаць пасля цяжкай працы... Я дурэла, бегала, скакала... Яна не спыняла маіх гульняў, увесь час была са мной... А калі памерлі мама і тата (прайшло ўжо больш за дваццаць гадоў), цёця замяніла мне іх. І парады заўсёды давала, і справай дапамагала. Калі я згадзілася выйсці замуж за ўдаўца (у яго двое дзяцей было), яна сказала: "Раз яны без маці, глядзі, каб не былі пакрыўджаныя..." Не пра мае інтарэсы думала – пра Божую справядлівасць. І мужу майму яна прыйшлася па душы. "Наша бабуля " – так называў ён маю цёцю".

А ле самай галоўнай каштоўнасцю ў жыцці для Бярнарды Аўгусцінаўны быў Бог і Яго справы! Праз усё жыццё яна пранесла гарачую веру ў Бога. Калі зачынілі касцёл у Варапаеве, ездзіла на святы ў Мёры, Гадуцішкі. Спявала па памерлых. Калі вярнулі вернікам пастаўскі храм, разам з сяброўкамі збірала па вёсках грошы на яго аднаўленне. "Ходзім па хатах, спяваем калядкі. А дадому ісці некалькі кіламетраў. Але нам весела ў дарозе: молімся, песні спяваем. Не баяліся ні цемры, ні марозу. Божую справу рабілі", – расказвала яна. Гэтак жа збірала з сяброўкамі грошы і на аднаўленне дунілавіцкага касцёла. А калі пачалі будаваць касцёл у Варапаеве, радасці яе не было межаў. "Ішлі на будаўніцтва як на свята, – казала. – Зусім не баялася вышыні. Цэглу і раствор насіла з сяброўкай Марыяй аж да вежы. Бог мне заўсёды даваў здароўе, дапамагаў у жыцці. Падумаць толькі: за ўсё працоўнае жыццё – ніводнага бюлетэня!"

Устарасці па-ранейшаму ўсім дапамагала. Калі не працай, дык маральна: усмешкай, добрым словам, узмахам рукі ў знак прывітання. Не чакала, калі павітаюцца з ёй – віталася першай, сама ішла насустрач людзям. Шмат часу кожны дзень прысвячала малітве.

Няхай добры Бог узнагародзіць яе за вялікую адкрытасць на патрэбы іншых, за дабрыню і цеплыню сэрца! Побач з ёй мы таксама станавіліся лепшымі.



## Бярнарда Аўгусцінаўна Ракіта

**Актыўны будаўнік касцёла, збірала са сваімі сяброўкамі грошы на касцёлы ў Паставах, Дунілавічах. "Як будавалі касцёл, з усіх бліжэйшых калодзежаў ваду выбіралі: для раствору шмат вады трэба было. Мулярам насілі раствор прама па сценах, аж да вежы, і цэглу так насілі. Маладым пажадаю моцнай веры, любові да Бога, каб людзі апамяталіся і звярнуліся да Яго. А Ён пакіруе».**

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік"
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч
Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211793
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.*

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя
"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Агрэсія. Што ды як?



*“Мы жывём не кепска, мы жывем не блага,*
*На твары ўсмешка, сякера пад лавай”.*
*N.R.M.*

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Працягнем тэму гневу гаворкай пра агрэсію. Як мы звычайна заўважаем агрэсію? Па паводзінах, па словах, міміцы, рухах. Чалавек можа крычаць ці пагрозліва выціскаць з сябе словы, размахваць рукамі ці сціскаць кулакі, хмурыць бровы ці глядзець з-пад ілба. Такія знакі прымушаюць насцярожыцца, напружыцца, магчыма, спалохацца ці сканцэнтравацца для вырашэння праблемы. Чужая агрэсія можа выклікаць гнеў ці пачуццё віны, мы можам абараняцца, апраўдвацца ці нападаць у адказ.

Агрэсію падзяляюць на вербальную (праз словы) ці фізічную (удар, штуршок і г.д.). Што рабіць у такіх сітуацыях, больш-менш зразумела. Ёсць магчымасць і жаданне дамовіцца? Намагаемся супакоіць сябе і суразмоўцу, высветліць прычыну вірлівай рэакцыі і прадумаць спосаб вырашэння канфлікту. Не маем намеру захоўваць стасункі, не можам супакоіць суразмоўцу ці проста сітуацыя становіцца небяспечнай – лепш абараніць сябе, сысці ці нават збегчы.

Больш складана разабрацца, калі сутыкаемся з пасіўнай агрэсіяй, схаванай за пытаннямі, клопатам, перасцярогай, жартамі, сваімі прыкладамі, успамінамі былых крыўдаў, намёкамі і г.д. Пасіўная агрэсія небяспечная тым, што не мае выразных сігналаў, якія б маглі даць штуршок для аналізу праблемы ці абароны сябе. Псіхалагічна нам становіцца горш, настрой падае, трывога і раздражненне растуць, адносіны псуюцца. Чалавек цьмяна падазрае: штосьці ў размове не так, але не распазнае агрэсію, хутчэй, адчувае віну, што чагосьці не дараблівае, не прымае клопат і апеку.

**Якім жа чынам распазнаць пасіўную агрэсію? Калі вам знаёмыя наступныя сітуацыі, то вы дакладна з ёй сустракаліся.**

■ Вы перадаеце, калі знаходзіцеся ў гасцях, бо гаспадары “пакрыўдзяцца”, калі не з’ясце ўсё, што яны, не пытаючыся, кладуць на вашую талерку.

■ Вы прыязджаеце на сямейныя “пасядзелкі” без аніякага жадання, бо ў адваротным выпадку родныя будуць бясконца пытацца, ці не пакрыўдзілі вас чым.

■ Вы ніколі не сварыцеся з братам ці сястрой пры маці, бо ў яе забаліць сэрца.

■ Вас ні пра што не прасілі, але вы чуеце расчараванае “ой, а я думала, ты гэта зробіш…”

■ Вам кажуць: “Калі б у мяне былі твае магчымасці, я б ужо..!” ці “У тваім узросце я ўжо працаваў!”

■ Вам даносяць заклапочана: “Ты, вядома, не крыўдуй, я табе толькі добрага жадаю, але ты так распаўнела!”

■ Вы чуеце ўздых: “Нікому я не патрэбна!”

■ Вам кажуць строга і ўпэўнена: “Мама дрэннага не параіць” ці “Будуць свае дзеці – зразумееш”.

■ Уздыхаючы: “Што ж вы без дзяцей усё? Ты не можаш ці муж?”

■ З абурэннем: “А што, самому незразумела, чаму крыўджуся?!”

■ На вашыя словы цмокаюць, крывяць вусны, закатваюць вочы і г.д.

Спіс яшчэ можна працягваць, рабіць яго доўгім і разнастайным. Аб’ядноўвае ўсе гэтыя пункты маніпуляцыя. Вы не атрымліваеце прамых зразумелых просьбаў і пасланняў, але адчуваеце, што вамі не задаволеныя, што ад вас чакаюць большага, што вы ўвесь час нечым абавязаныя, і гэта прыводзіць да хранічнага пачуцця віны.

Адзін з відаў агрэсіі – маўчанне, ігнараванне ці байкот. Мала хто над гэтым задумваецца, але тыя, каго каралі маўчаннем у дзяцінстве, узгадваюць падобны метад як самы цяжкі. Дзецям невыносна цярпець ігнараванне бацькамі, яны пакутуюць ад адкідання, не ведаюць, як сябе паводзіць, баяцца прасіць прабачэння, увесь час знаходзяцца ў моцным напружанні. Не рэагаваць на просьбы, словы, заўвагі – гэта прыкмета пасіўнай агрэсіі. Не адказваць на пытанні, паведамленні, запрашэнні – гэта спосаб сказаць: “ты не важны для мяне.” Ну і класічны спосаб: пакрыўдзіцца і не размаўляць, прымушаючы здагадвацца пра прычыны крыўды.

Важна распазнаваць не толькі адкрытую агрэсію, але і маніпуляцыі, каб разумець, што адбываецца ў дадзены момант у стасунках і мець магчымасць адрэагаваць і прыпыніць напад. Гэта будзе карысна і для вас, і для таго, хто агрэсіўна настаўлены супраць вас, бо часцей за ўсё (хоць і незаўжды) людзі маніпулююць несвядома, самі не разумеючы, што і чаму адчуваюць. Такім чынам, распазнаць любыя віды агрэсіі – гэта магчымасць аздаравіць адносіны, быць больш шчырымі і адкрытымі адно да аднаго.

Дзякуй за ўвагу!

# Как похвалить ребёнка, не причинив вреда

**Помня, что на календаре всё-таки лето, хотя реальная погода за окном иногда об этом забывает, и многие из вас проводят больше времени со своими детьми, сегодня поговорим о том, как правильно хвалить детей.**

**Марина Ткач**, *магистр психологии*



Думаю, многие со мной согласятся, что в похвале нуждается каждый из нас. Потому что похвала – источник сил и достаточно мощный мотиватор для достижения поставленных целей.

В случае с детьми похвала даёт возможность понять и оценить правильность своих действий и поступков, помогает ориентироваться в нормах общественной жизни. Существует такое высказывание, что похвала – это мощнейшее оружие родительской любви. Действительно, многие родители твёрдо уверены, что хвалить ребёнка нужно обязательно. Но вот как правильно это сделать, знают немногие.

Итак, чтобы от похвалы была польза, следует:

**Хвалить ребёнка за конкретные поступки и действия.** В таком случае у ребёнка возникает ощущение собственной значимости и взрослости.

**Не хвалить за каждую мелочь.** Во-первых, от этого утрачивается сам смысл похвалы. Как пример, если съесть три конфеты сразу – это вкусно, а если три килограмма – то приторно и уже совсем невкусно. Так и с похвалой: всё разумно в меру и к месту. Во-вторых, слова взрослых имеют важное значение и силу для ребёнка, поэтому со временем у него может возникнуть своего рода зависимость от похвалы. И в случае, если вы перестаете хвалить его по пустякам, он будет испытывать растерянность и недоумение, определённый психологический и даже физический дискомфорт.



**Есть такое выражение “Быть на одном уровне глаз”.** Всегда, когда вы хвалите ребёнка, установите с ним прямой зрительный контакт. Дополните похвалу действиями и жестами: улыбкой, объятиями, поцелуем. Существует мнение, что по меньшей мере семь раз в день нужно испытать объятия. Так что дерзайте!

**Не сравнивать ребёнка с другими детьми.** Это может привести к чувству превосходства, и тогда это один полюс. Но и к неуверенности в себе и ощущению, что его не любят – это другой полюс. Ребёнка можно и нужно сравнивать только с самим собой, т.е. каким он был и каким стал.

**Хвалить за достижения, которые даются с усилием**, а не за те данные, которые заложены генетически, например, за гибкость, ловкость, силу, быстроту и т.д.

**Не обещать, тем более не утверждать (и, естественно, не требовать), что из вашего ребёнка обязательно вырастет великий** учёный, писатель, художник, танцор, спортсмен и т.д. Просто знайте и помните, что невзначай сказанные слова подобного рода для ребёнка в будущем могут обернуться проблемой неоправданных ожиданий и чувством вины за это, а также постоянными попытками прыгнуть выше головы. Поверьте, это может значительно осложнить жизнь ваших уже взрослых детей.

**Хвалить с помощью так называемых “Я-высказываний”.** Лучше использовать слова “Я” и “Мне” вместо “Ты”. Например, “Я очень довольна тобой сегодня” вместо “Ты сегодня молодец”.

**Не обесценивать достижения ребёнка.** Если вы похвалили за что-то, то не стоит тут же делать акцент на минусах и промахах. Как известно, сразу идеально ничего не получается. Нужно ценить тот факт, что ваш ребёнок пробует что-то делать. И это иногда важнее результата. Знаменитый психолог и психотерапевт Владимир Леви в одной из своих книг писал: “Если вы не знаете, за что похвалить ребёнка, придумайте это!”

Обращу ваше внимание, что вышеизложенные правила можно применять и по отношению ко взрослым. Ведь, как я писала в самом начале, мы тоже ждём и стремимся к похвале.

В завершение скажу, что как бы не была важна похвала со всеми своими плюсами и минусами, дети нуждаются в абсолютном признании и безусловной любви.

# У Пагошчы асвечаныя крыж і касцёл



**Урачыстасць адбылася ў нядзелю, 15 ліпеня, падчас візітацыі біскупа Алега Буткевіча ў парафію Божай Міласэрнасці ў Пагошчы.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Спачатку іерарх асвяціў новы крыж у цэнтры вёскі, які ўсталяваны на цэнтральнай плошчы Пагошчы.

Менавіта каля крыжа вернікі разам з пробашчам ксяндзом Славамірам Самковічам чакалі свайго пастыра. Пасля традыцыйнай сустрэчы з хлебным караваем іерарх звярнуўся да прысутных са словамі прывітання. Ён адзначыў, што цяпер крыжы варочаюцца на свае месцы, туды, дзе ім належыць быць. Зараз, дзякуй Богу, мінулі тыя часы, калі мясцовыя ўлады зразалі і знішчалі крыжы.

Разам з вернікамі іерарха сустракаў і кіраўнік мясцовай гаспадаркі "Маяк Браслаўскі" Рамуальд Шукель. Гэта гаспадарка з ініцыятывы Рамульда Іванавіча і стала галоўным спонсарам устаноўкі крыжа.

– Я рады і шчаслівы, што буду прыязджаць на працу і бачыць, што стаіць крыж. Ён стаіць у цэнтры вёскі, але ён глядзіць на адміністрацыйны будынак праўлення нашай гаспадаркі. Думаю, Бог нам будзе дапамагаць і ў цяжкую хвіліну, і ў добрую, каб у нас справы ішлі яшчэ лепш, – адзначыў Рамульд Шукель.

Біскуп Алег прачытаў малітву і асвяціў новы крыж. Іерарху дапамагло ў гэтым і неба, бо як раз пад час асвячэння зацерушыў невялікі дождж, які хутка спыніўся.

Урачыстасць суправаджалася спевам хору з Друі з удзелам скрыпачак са Слабодкі.

Пасля асвячэння крыжа вернікі разам са святарамі пайшлі працэсіяй да касцёла, які таксама павінен быў асвечаны ў гэты дзень.

Хаця ў храме ўжо сямнаццаць гадоў гучаць малітвы, да гэтага часу не адбылося яго дэдыкацыі.

Вернікі разам з пробашчам вельмі старанна рыхтаваліся да гэтай падзеі. Храм упрыгожылі як знутры, так і звонку. Ад касцельнай брамы да ўваходу ў касцёл выслалі прыгожую дарожку з жывых кветак. Як заўважыў біскуп Алег, на такую прыгажосць нават не хацелася ступаць нагамі. Такую аздобу стварылі старэйшыя верніцы парафіі.

Храм быў цалкам запоўнены вернікамі. На ўрачыстасць прыбылі таксама ксяндзы Анджэй Бочар з Далёкіх і Эдвард Ахрамовіч з Опсы. Святую Імшу ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч, дапамагаў яму ксёндз Эдвард, які ў свой час быў пробашчам у Пагошчы.

На пачатку набажэнства біскуп звярнуўся з кароткім словам да вернікаў. Ён адзначыў: "У гэты прыгожы дзень 15 ліпеня ў 15-ю звычайную, але незвычайную нядзелю будзе асвечаны ваш касцёл". Іерарх падзякаваў святарам, якія раней тут служылі, у тым ліку і ксяндзу Эдварду, што прысутнічаў на Імшы.

Словы падзякі былі выказаныя і цяперашняму пробашчу ксяндзу Славаміру Самковічу, які служыць тут з 2015 года і паспеў шмат зрабіць як у справе матэрыяльнага добраўпарадкавання святыні, так і ў духоўным развіцці парафіі.

Асобую падзяку ад ардынарыя атрымаў кіраўнік мясцовай гаспадаркі Рамуальд Шукель, каторы, паводле слоў біскупа, з'яўляецца шматразовым ахвярадаўцам святыні. Шмат у чым дзякуючы яму стала магчымым тое, што Пагошча мае гэты касцёл.

Іерарх выказаў таксама цёплыя словы хору, музыкантам і ўсім вернікам, якія сабраліся на ўрачыстасць. "Вельмі добра, што святыня сёння не пустуе," – адзначыў ён.

Пасля малітвы на асвячэнне вады біскуп акрапіў ёю алтар, сцены храма і саміх вернікаў.

На самым пачатку гаміліі іерарх узгадаў словы Езуса Хрыста, якія Ён сказаў Пятру: "На табе збудую свой Касцёл, і брамы пякельныя не перамогуць яго". Потым біскуп паразважаў на тэму нашай ахвяры Богу, адзначыўшы, што кожная сумленна выкананая праца і ёсць гэтай ахвярай.

Ахвяра – гэта тое, што яднае людзей у Імя Божае. А наш шлях да алтара ляжыць праз канфесіянал, бо толькі з чыстым сумленнем мы можам удзельнічаць у Эўхарыстыі.

На жаль, сучасны свет усё далей адыходзіць ад Бога. Людзі не хочуць выносіць урокаў з нядаўняга мінулага, якое паказала, да чаго прыводзіць жыццё без Бога.

Біскуп параўнаў Касцёл і сям'ю, назваўшы яе маленькім Касцёлам. На жаль, ужо страчваецца традыцыя супольнага сямейнага абеду, які яшчэ нядаўна быў звычайнай справай. Людзі не толькі сумесна спажывалі ежу, але і абмяркоўвалі сямейныя справы, і гэта іх яднала. Так і супольная прысутнасць на Імшы яднае нас, робячы ўсіх адной хрысціянскай сям'ёй, адзначыў іерарх.

Біскуп заўважыў таксама, што Езус стаў адначасова ахвярай, алтаром і святаром, таму вельмі важна прысутнічаць на Імшы, калі на алтары з намі Жывы Бог. Алтар – гэта і ёсць вобраз Езуса Хрыста. І кожны з нас, прымаючы Яго, з'яўляецца гэтым алтаром.

Біскуп Алег ад усяго сэрца пажадаў кожнаму верніку заставацца такім алтаром, каб Бог заўсёды быў на першым месцы ў нашым жыцці.

Затым вернікі разам з біскупам Алегам і святарамі памаліліся літаніяй да Усіх Святых, як гэта адбываецца перад важнай падзеяй – асвячэннем храма. Пасля гэтага біскуп намасціў алтар святым алеем, а ксёндз Эдвард паставіў адмысловыя крыжыкі на сценах касцёла. Алтар заслалі белым абрусам і паставілі посуд з пахучымі зёлкамі для кадзіла. Біскуп акадзіў алтар і ўвесь храм, які напоўніўся прыемным водарам.

Цікава, што падчас асвячэння касцёла свяціла сонца і адначасова ішоў дождж, які спыніўся адразу пасля асвячэння. Ардынарый назваў гэта добрым знакам, які Бог пасылае нам з неба.

Затым біскуп перадаў запаленую свечку як сімвал Божага святла пробашчу, каторы ад яе запаліў свечкі на алтары. Пасля гэтага адбылася працэсія з дарамі, у якой прынялі ўдзел дзеці парафіі. Яны паднеслі іерарху свечку, Біблію, садавіну, кветкі, хлеб, віно і гостыю.

Напрыканцы Імшы быў падпісаны біскупскі дэкрэт аб асвячэнні касцёла Божай Міласэрнасці ў Пагошчы. Яго падпісалі біскуп Алег, ксёндз Эдвард Ахрамовіч, ксёндз Славамір Самковіч і Рамуальд Шукель. Рамуальд Іванавіч заслужыў такі гонар тым, што шмат разоў дапамагаў касцёлу. Ён прызнаўся, што гэта стала для яго нечаканасцю, бо першы раз у жыцці кіраўнік гаспадаркі падпісваў такі дакумент. І гэта ён лічыць адной з самых значных падзей у сваім жыцці!

Пасля таго, як біскуп Алег удзяліў сваё блаславенне, вернікі выказалі падзяку ардынарыю і святарам за сённяшнюю ўрачыстасць і ўручылі ім кветкі. Словы падзякі былі выказаныя і ў адрас ксяндза Кшыштафа Мянкіны, які быў першым святаром у гэтай парафіі. Ён будаваў храм, а таксама гуртаваў саму супольнасць вернікаў у Пагошчы. Ксёндз Кшыштаф таксама быў запрошаны на ўрачыстасць, але не змог прыехаць, бо знаходзіўся ў гэты час за мяжой. А пробашч парафіі ксёндз Славамір выказаў словы падзякі і ўручыў кветкі Рамуальду Шукелю, без дапамогі якога святыня магло і не адбыцца.

Закончылася ўрачыстасць спевам гімна "Магутны Божа", пасля чаго ўсіх чакаў супольны абед на прыкасцельнай тэрыторыі.





# Жанчына, якая жыве

## Гісторыя жонкі гвардзейца Швейцарскай

**Уяві, што твае дзеці ездзяць на роліках ці скейтах па вуліцах горада і вітаюцца з Папам Францішкам! І гэта – цалкам звычайная справа...**

**Магдалена Валынская-Рыэдзі з'яўляецца вядомай журналісткай з Польшчы, якая асвятляе навіны Ватыкана. Яе незвычайная гісторыя, звязаная з Вечным Горадам, пачалася ў 2000-ым годзе падчас Сусветных дзён моладзі з Папам Янам Паўлам ІІ. Будучы валанцёрам СДМ, Магда ішла праз плошчу св. Пятра і спытала ў аднаго са швейцарскіх гвардзейцаў: ці ў правільным кірунку яна рухаецца? Тады яна і не здагадвалася, што размаўляе са сваім будучым мужам...**

**– Вы жывяце ў месцы, дзе лунае надзвычайнае паветра, за сценамі Ватыкана. Ці гэта сапраўды іншы свет?**

– Так, жыццё па-за Бронзавай Брамай – цалкам іншы свет! Думаю, яго можна смела параўнаць з каралеўскім дваром, напрыклад. Ватыкан аддзелены ад Вечнага Горада высокай сцяной, яго брамы кожны вечар зачыняюць і зноў адчыняюць а 6-й гадзіне раніцы. Дарэчы, зачыняюць усю краіну!..

Я – адна з прыблізна 400 свецкіх жыхароў, якія пражываюць тут, уключаючы ўсяго 30 жанчын. З аднаго боку, кожны дзень я адчуваю, што знаходжуся ў асаблівым месцы, і гэта адчуванне незвычайнае. Мы бачым клопат і павагу ад мужчын, асабліва ўлічваючы, што 110 чалавек з і так невялікай колькасці жыхароў – салдаты. Акрамя таго, тут знаходзіцца 150 агентаў паліцыі – Ватыканская жандармерыя, – якія не жывуць у Ватыкане, але прысутнічаюць тут 24 гадзіны ў суткі, каб гарантаваць бяспеку ўсім.

Жыццё ў Ватыкане праходзіць пад пастаяннай праверкай. У розных кутках і закутках маленькай краіны размешчана больш за 300 камер назірання. І ўсё гэта дзеля таго, каб забяспечыць бяспеку і абарону Папы, а таксама бяспеку ўсіх нас, хто жыве з ім па суседстве.

Найбольшай перавагай для тых, хто жыве за сценамі Ватыкана, з'яўляецца пастаянная прысутнасць Папы Францішка і Папы на пенсіі Бэнэдыкта XVI. Мы бачымся тады, калі Папа Францішак прыязджае на аўтамабілі на сустрэчы ці агульныя аўдыенцыі ў Апостальскім Палацы і тады, калі вяртаецца з падарожжаў. Шпацыруючы па ватыканскіх садах, мы з дочкамі можам сустрэць Папу на пенсіі Бэнэдыкта (на жаль, цяпер значна радзей, улічваючы тое, што з узростам яго сілы паступова памяншаюцца).

У Ватыкане я адчуваю сябе як дома. Гэта адна вялікая сям'я.

Я жыву тут ужо 15 гадоў і ведаю кожны каменьчык. Гэта дакладна маё месца на зямлі! Яно ўнікальнае для мільёнаў каталікоў і людзей іншага веравызнання з усяго свету, і адначасова – незвычайнае для мяне і тых, каго я люблю.

**– Як праходзіць Вашае штодзённае жыццё ў Ватыкане?**

– Штодня я памятаю пра тое, што Ватыкан з'яўляецца не толькі мікраскапічнай краінай, у якой я купляю прадукты, хаджу з дзецьмі на перыядычныя медагляды да ўрача або езджу на ровары ў вольны час, але гэта таксама сэрца нашай веры, месца, дзе жывуць лідары нашага Касцёла. Менавіта таму для мяне натуральна прытрымлівацца тых правілаў, якія тычацца, напрыклад, вернікаў, што ўдзельнічаюць у Эўхарыстыі.

Мы не можам хадзіць па вуліцах Ватыкана з агаленымі плячыма, у кароткіх спадніцах або шортах нават тады, калі летам у Рыме невыносная спякота і тэмпература перавышае 40 градусаў. Мы не можам шумець ці ладзіць гучныя вечарыны, на якіх госці танчаць і спяваюць да самай раніцы. Мы – дома, але ў той жа час мы знаходзімся ўнутры старажытных сцен, у цені Апостальскага Палаца, паблізу Дома св. Марты, дзе жыве Папа Францішак. Менавіта таму трэба паводзіць сябе сціпла і з надыходам цемры захоўваць цішыню. Тут свет замірае, вірлівае жыццё Вечнага Горада далятае да нас звонку, аднак застаецца ў іншым вымярэнні.



Наша жыццё, свецкіх вернікаў – мужчын і жанчын, з'яўляецца цалкам нармальным. Хоць яно і прытрымліваецца рытму літургічнага каляндара і нацыянальнага каляндара Ватыкана.

Цалкам натуральна, што, напрыклад, Пяцідзясятніца тут з'яўляецца выходным днём або дзень успаміну заступніка Папы і гадавіна абрання Святога Айца. У гэтыя дні ўсе крамы і офісы закрытыя.

У нашай невялікай сям'і швейцарскіх гвардзейцаў мы таксама адзначаем святы і захоўваем традыцыі, звязаныя з самой гвардыяй. Напрыклад, гадавіна заснавання маленькага і найстарэйшага вайсковага фармавання ў свеце ці, скажам, Дзень Святога Мікалая альбо 1 жніўня – гадавіна заснавання Швейцарскай Канфедэрацыі. У такія святы мы ўсе збіраемся ў прыгожым двары, дзе нашы гвардзейцы звычайна штодня практыкуюцца. Мы сядзім за доўгімі сталамі, у цені сярэднявечных бастыёнаў, а пасля афіцыйных прамоваў святкуем да позняга вечара. Вядома, заўсёды сціпла!



***– Журналістыка стала Вашай працай і запалам. У рэтраспектыве гэта свайго кшталту "асаблівая місія"?***

– Я ніколі не верыла ў супадзенні, і мой кар'ерны шлях у журналістыцы дакладна не быў выпадковасцю. Я заўсёды давяраю Божаму Провіду важныя справы ў маім жыцці. Так было і ў гэтым выпадку.

Нечакана да мяне патэлефанавалі, і я атрымала прапанову. Гэта быў вялікі выклік. Павінна адзначыць, што я – вельмі амбіцыйная асоба, у мяне тры ўніверсітэцкія дыпломы і я ведаю некалькі моў. Таму я падумала, што варта паспрабаваць хаця б дзеля таго, каб выпрабаваць сябе самую. Я таксама лічу гэтую працу асаблівай місіяй, у якой я магу сумяшчаць свой вопыт на тэлебачанні і маё жыццё ў Ватыкане, дзе ўсё відаць з зусім іншага пункту гледжання.

Я заўсёды хацела наблізіць Папу, Касцёл і Ватыкан да аўдыторыі, да сваіх суграмадзян, аднак мяне ніколі не пераставала зачароўваць магчымасць асвятляць і іншыя пытанні.

Галоўным выклікам была хваля міграцыі, якая сёння ўжо сціхла, аднак на працягу двух гадоў гэтая тэма заставалася найбольш актуальнай у Італіі і Міжземнамор'і ўвогуле. Я некалькі разоў наведвала Лампедузу і выходзіла ў адкрытае мора з італьянскай паліцыяй. Мы дапамагалі нелегальным мігрантам з узбярэжжа Лівіі дабрацца да берага. Гэта былі драматычныя выпадкі.

Я старанна сачыла за трагедыяй сірыйскіх уцекачоў у лагерах Лівана і Іярданіі. Я асвятляла наступствы землятрусаў у Цэнтральнай Італіі ў 2016 годзе, а таксама ў гарах Абруца, дзе лавіна забрала жыццё 29 гасцей гатэля. Асвятленне папскіх падарожжаў – вельмі важная сфера маёй працы.

Мне часта шанцуе ляцець тым жа самалётам з Папам Францішкам. І ўсе мы адчуваем, што з'яўляемся адзінай супольнасцю: група ватыканістаў і ўсё папскае суправаджэнне – кардыналы, біскупы і ахоўнікі. Усяго каля 140 чалавек. Такім чынам я падарожнічала ў Мексіку, Егіпет і Кракаў.

Гэтае апошняе падарожжа застанецца адным з найяскравейшых досведаў маёй журналісцкай працы. Як польскі карэспандэнт з Папам я наведала маю радзіму падчас Сусветных дзён моладзі, рэпартажы я рабіла з самых унікальных месцаў. І я была побач з Папам Францішкам!



# ў Ватыкане.

## гвардыі Ватыкана

Акрамя таго, я мела магчымасць паўдзельнічаць у начным малітоўным чуванні з Папам Францішкам на "Палях Міласэрнасці" з двума мільёнамі прысутнай моладзі і двумастамі мільёнамі па ўсім свеце, якія прымалі ўдзел у чуванні з дапамогай сродкаў камунікацыі. Гэта было вельмі асаблівае чуванне, якое назаўжды застанецца ў маім сэрцы і ў маёй памяці!

**– Ці гэта дае Вам адчуванне рэалізацыі?**

– Такі неверагодны вопыт дае мне вялікае задавальненне і пачуццё прафесійнай рэалізацыі. Але, без сумневу, як і кожная жанчына, я больш цешуся сваіх дзвюх дачушак: 8-гадовай Марыі і 10-гадовай Маланіі. Яны даюць мне пачуццё сапраўднай рэалізацыі. Як мама я рэалізаваная асоба. Штодня мае дзяўчынкі ходзяць у швейцарскую школу разам з іншымі дзецьмі Папскай Швейцарскай гвардыі.

Для маіх дзяцей, якія тут нарадзіліся, жыццё ў Ватыкане з'яўляецца чымсьці цалкам натуральным: яны ездзяць на роварах або роліках, падчас шпацыраў сустракаюць Папу і ўдзельнічаюць у розных урачыстасцях.

Я лічу, што гэта выдатная школа жыцця, якая гарантуе глыбокую інтэлектуальную і духоўную фармацыю. Яна ўмацоўвае наш маральны характар, які, на маю думку, з'яўляецца надзвычай важным у сучасным свеце.

Мы да гэтага часу падтрымліваем блізкі і шчыры кантакт з Папам Бэнэдыктам XVI. Мы наведваем яго ў рэзідэнцыі ў ватыканскіх садах. Менавіта ён, яшчэ будучы кардыналам Ёзэфам Ратцынгерам, блаславіў наша сужэнства 15 гадоў таму і менавіта ён ахрысціў нашых дзяцей. Ні я, ні мой муж у той час і не думалі пра тое, што наш шлюб бласлаўляе будучы Папа. Блізкія адносіны паміж намі засталіся на працягу шматлікіх гадоў, і я лічу, што гэты шэраг надзвычайных падзей у маім жыцці ёсць вялікім Божым дарам! І веру, што так і застанецца надалей!

*Івона Флісікоўская*
*Каталіцкі аглядальнік,*
*паводле матэрыялаў Aleteia.org*



## З Глыбокага ў Будслаў прыйшло 220 пілігрымаў




**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

**Дарога да будслаўскай святыні заняла 3 дні.**

За такі кароткі прамежак часу вельмі істотна мянялася надвор'е. Калі ў пятніцу 29 чэрвеня была моцная спёка, то ў суботу ўжо значна пахаладала, а ў нядзелю амаль цэлы дзень ішоў дождж і быў даволі моцны вецер.

Але нягледзячы на гэта, больш за дзве сотні глыбоцкіх вернікаў прыйшло да будслаўскай святыні, каб пакланіцца абразу Маці Божай. У гэтым годзе ў пілігрымцы было шмат дзяцей, якія разам з дарослымі прайшлі гэты шлях. Разам з парафіянамі ішлі святары і манахіні: ксяндзы Іван Кароткін, Мікалай Ціхановіч, Віталь Галец, Дзмітрый Рацько, прэлат Аляксандр Рагіня, і сёстры Ганна Блышко і Алена Сурвіла.

Улічваючы тое, што ксёндз Аляксандр Рагіня зараз узначальвае дыпламатычную місію Ватыкана ў Рэспубліцы Чад, а сястра Алена служыць у Грузіі, глыбоцкую пілігрымку можна назваць міжнароднай.

# Лічбы і даты: прайдзіце новы тэст "Каталіцкага Весніка"

1 Колькі ўсяго ёсць касцельных наказаў? Выберыце правільны адказ:



**А.** 10;
**Б.** 5;
**В.** 2.

2 Палічыце, колькі разоў словы "Духа Святога" ўжываюцца ў Апостальскім сімвале веры:



**А.** 1;
**Б.** 2;
**В.** 3.

3 Колькі ёсць евангелістаў?



**А.** 3;
**Б.** 6;
**В.** 4.

4 У якім годзе кардынал Хорхэ Марыа Бергольё стаў Папам Рымскім?



**А.** У 2015;
**Б.** У 2012;
**В.** У 2013.

5 Выберыце з прапанаваных тую дату, калі была створана Віцебская дыяцэзія:




**А.** 2000;
**Б.** 1993;
**В.** 1999.

6 Колькі гадоў было Езусу, калі адбыўся Яго хрост у Іярдане?



**А.** 22;
**Б.** 30;
**В.** 33.

7 Калі Каталіцкі Касцёл адзначае ўрачыстасць Усіх Святых?



**А.** 1 верасня;
**Б.** 1 лістапада;
**В.** 1 кастрычніка.

8 Сакраманты – гэта бачныя і дзейсныя знакі ласкі, устаноўленыя Хрыстом. А колькі ўсяго ёсць сакрамантаў?



**А.** 5;
**Б.** 10;
**В.** 7.

*Ірына Радзевіч*

Правільныя адказы на тэст на старонцы 12

# Каляндар на жнівень

**6 жніўня – Перамяненне Пана.**

Гэтае свята звязваюць з цудам, якое Езус Хрыстус здзейсніў напрыканцы Свайго зямнога шляху перад трыма апосталамі – Пятром, Якубам і Янам. Хрыстус прывёў Сваіх вучняў на гару Табор і адкрыў, што Яму належыць пакутаваць за людзей, памерці на крыжы і ўваскрэснуць. Там Ён перамяніўся перад апосталамі: твар Яго заззяў, а вопратка зрабілася асляпляльна белай. Два прарокі Старога Запавету – Майсей ды Ілля – з'явіліся Госпаду на гары і размаўлялі з Ім. А голас Бога Айца са светлага воблака сведчыў пра Боскасць Хрыста. Лічыцца, што на гары Табор Езус упершыню паказаў людзям сваю Боскую сутнасць. Вучні ўсвядомілі, што перад імі не проста прарок, але Сам Пан. Свята Перамянення Пана нагадвае вернікам на прыкладзе Езуса Хрыста пра неабходнасць духоўнага перамянення і ўдасканалення. Лічыцца таксама, што гэтае свята звязана са старазапаветным днём асвячэння пладоў. Так, на Усходзе ў пачатку жніўня выспяваюць злакі і вінаград, якія хрысціяне прыносяць у храм для блаславення.

**10 жніўня – успамін святога Лаўрэнція, святара і пакутніка.**

Паводле падання, Лаўрэнцій паходзіў з Іспаніі. Ён быў дыяканам і служыў пры св. Папу Сіксту ІІ, з якім яго звязвалі блізкія сяброўскія адносіны. 6 жніўня 258 г. падчас пераследу цэзара Валяр'яна Папу і чацвярых яго дыяканаў, у тым ліку і Лаўрэнція, арыштавалі на набажэнстве ў рымскіх катакомбах Калікста. Папу ў той жа дзень адсеклі галаву (успамін св. Сікста ІІ, Папы і пакутніка, прыпадае на 7 жніўня), а праз чатыры дні пакутніцкую смерць прыняў таксама і Лаўрэнцій: ён быў спалены жывым. Перад смерцю цэзар патрабаваў у яго выдаць багацці хрысціянаў, на што святы, паказваючы на жабракоў, сказаў: "Вось сапраўднае багацце Касцёла!" Цела святога Лаўрэнція спачывае ў базіліцы, што носіць яго імя і з'яўляецца адным з найважнейшых касцёлаў Рыма, а галава святога – адна з найкаштоўнейшых рэліквій хрысціянства – захоўваецца ў Ватыкане. Святога Лаўрэнція заўсёды ўшаноўвалі і на Захадзе, і на Усходзе, а ў Рыме ён лічыцца трэцім пасля святых апосталаў Пятра і Паўла ў іерархіі культу. Святы з'яўляецца апекуном пажарных, яго заступніцтва просяць пры хваробах скуры, а таксама ад пажараў і мукаў чысца.




**14 жніўня – успамін св. Максімільяна Марыя Кольбэ.**

Святы Максімільян нарадзіўся 8 студзеня 1894 г. у Здуньскай Волі каля Лодзі (Польшча). Вучыўся ў Рыме, меў ступень доктара. У 1918 годзе атрымаў святарскія пасвячэнні ў ордэне францішканаў. З'яўляецца заснавальнікам апостальскага таварыства "Рыцарства Беззаганнай" і рэлігійнага часопіса "Рыцар Беззаганнай". У час акупацыі арыштаваны і вывезены ў канцлагер у Асвенціме. Там ахвяраваў сваё жыццё за бацьку адной сям'і. Памёр у камеры смерці ў ліпені 1941 г. Беатыфікаваны Папам Паўлам VI 17 кастрычніка 1971 г., а Папа Ян Павел ІІ кананізаваў Максімільяна Марыя Кольбэ 10 кастрычніка 1982 г.

**15 жніўня – Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі.**

У 1950 годзе Папа Пій XII асаблівым дэкрэтам афіцыйна прыняў дагмат аб цялесным Унебаўзяцці Маці Божай на неба. У гэтым дагмаце адлюстравалася вера, якой спрадвеку прытрымліваўся Касцёл. У дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі існуе традыцыя ў знак падзякі прыносіць першыя плады новага ўраджаю. У гэты дзень для вернікаў з'яўляецца абавязковым наведванне св. Імшы.

**22 жніўня – урачыстасць Маці Божай Браслаўскай Валадаркі Азёраў.**

Пра касцёл у Браславе ведаюць многія вернікі не толькі Віцебскай дыяцэзіі, але і ўсёй Беларусі. Падставай гэтаму служыць цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай, які знаходзіцца ў галоўным алтары святыні. 22 жніўня 2009 года Браслаўская парафія Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі перажыла велічную і значную падзею – каранацыю папскімі каронамі цудатворнага абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў. Штогод на ўрачыстасць Маці Божай Браслаўскай прыязджае вялікая колькасць вернікаў з усёй Беларусі, каб выказаць Ёй сваю падзяку і пашану. У Браславе ўрачыстасці Маці Божай Валадаркі Азёраў пройдуць сёлета **17-18 жніўня**.

**24 жніўня – успамін св. Барталамея, апостала.**

## Унікальныя кадры: як праходзіў фэст у Будславе ў 1937 годзе

### У свяце ўдзельнічаў ваявода і размаўляў з жыхарамі вёсак

Унікальныя кадры ўрачыстасцяў у Будславе знайшоў у сетцы каталіцкі блогер Кастусь Шыталь. 47-секундны ролік быў зроблены 2 ліпеня 1937 года і апублікаваны ў Polskiej Agencji Telegraficznej. На сайце Ninateka.pl гаворыцца пра тое, што ў "Польскім штотыднёвым бюлетэні" прадстаўлена парафіяльнае свята ў Будславе на Віленшчыне.

Сам ваявода ўдзельнічае ў цырымоніі. Чыноўнік разам са сваёй жонкай слухае жыхароў вёсак, якія знаходзяцца ў правінцыі пад яго кіраваннем. У гэты час за мяжой, у Савецкай Беларусі, быў разгар сталінскіх рэпрэсій і барацьбы з хрысціянскай верай.

Матэрыял аблічбавалі як частку шматгадовай праграмы Kultura + Priorytet Digitalizacja. Мецэнатам праграмы з'яўляецца Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы, а апператарам — Нацыянальны аўдыявізуальны інстытут.

Нагадаем, у 1937 годзе Заходняя Беларусь была яшчэ ў складзе Польшчы. Савецкая ўлада прыйшла сюды ў 1939 годзе.

*katolik.life*



## На жнівень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** (*Навалукамль*);

**4 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** (*Удзела*);

**5 жніўня** – **дзень святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** (*Ахрэмаўцы*);

**7 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** (*Дуброўна*);

**10 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** (*Талачын*), **кс. Вячаслаў Адамовіч** (*Дзісна*); **дзень святарскага пасвячэння** адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** (*Віцебск*);

**13 жніўня** – **імяніны** адзначае **а. Максім Варанюк OFMCap** (*Докшыцы*);

**14 жніўня** – **імяніны** адзначае б. Максім Тамковіч OFMCap (Докшыцы);

**15 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** (*Віцебск*);

**16 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** (*Шаркаўшчына*); **кс. Генадзь Рэйшаль** (*Шаркаўшчына*);

**17 жніўня** – **імяніны** адзначае **кс. Яцэк Хутман** (*Камаі*);

**18 жніўня** – **дзень святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** (*Дзісна*), **кс. Антон Лагунёнак** (*Канстанцінава*), **кс. Валерый Марціноўскі** (*Люблін*);

**21 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Дзмітрый Рацько** (*Празарокі*);

**26 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Андрэй Кулік** (*Дзеркаўшчына*);

**28 жніўня** – **дзень нараджэння** і **імяніны** адзначае **кс. Аляксандр Дулінец**;

**30 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Сымон Фарайтэр OMI** (*Шуміліна*);

**31 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** (*Лепель*).

*Падрыхтаваў* ***Зміцер Лупач***

# Што рабіць, калі на адпачынку няма касцёла?

*"Як паступаць чалавеку, які выязджае на адпачынак туды, дзе няма касцёла? Як маліцца і якім чынам прыняць удзел у святой Імшы?"*
*Святлана*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Шаноўная Святлана! Дзякуй за пытанне, якое, на мой погляд, вельмі важнае для католікаў, а задаецца, мабыць, нячаста. Праца і адпачынак – гэта звычайна неад'емныя элементы чалавечага жыцця і вынік Божай волі. Першыя старонкі Святога Пісання кажуць пра тое, што Бог паклікаў чалавека да актыўнасці праз працу, дзякуючы якой можа ён стаць супрацоўнікам Самога Стваральніка. Бог пастанавіў таксама, каб людзі пасля працы мелі час для адпачынку, які ў сваю чаргу мае служыць аднаўленню фізічных і духоўных сіл ды сустрэчы з Самім Богам.

## Езус Хрыстус заклікае да адпачынку

Езус у Евангеллі кажа Апосталам пра неабходнасць адпачынку: "Апосталы сабраліся каля Езуса і расказалі Яму ўсё, што зрабілі і чаму навучылі. І Ён сказаў ім: "Пайдзіце адны ў пустыннае месца і крыху адпачніце"" (Мк 6,30-31). Такім чынам, Хрыстус не толькі прызнаў права чалавека на адпачынак, але і абавязаў нас адпачываць. У выпадку Апосталаў гэта было пустыннае месца, безумоўна, прыгожае, пра што сказана ў наступным вершы ўзгаданага фрагменту Евангелля. Мы бачым, што Збаўца клапоціцца пра патрэбы сваіх вучняў, якія былі змучаныя апостальскай дзейнасцю. І хоць ведаем, што людзі пайшлі за імі, што ў сваю чаргу схіліла вучняў быць разам з Езусам і служыць тым, хто прагне Божага Слова, запрашэнне Пана да адпачынку застаецца вымоўным і актуальным заклікам.

## Сумленная праца і адпачынак па-хрысціянску

Касцёл, паслухмяны свайму Вечнаму Настаўніку, навучае, што чалавек павінен сумленна працаваць дзеля свайго дабра і іншых людзей, якім праз працу можа служыць. Мы памятаем простыя словы Апостала Паўла, які заахвочвае да працы і перасцерагае перад бяздзейнасцю: *"Калі хто не хоча працаваць, няхай і не есць. Але мы чулі, што некаторыя сярод вас жывуць у бязладдзі: нічога не робяць, але займаюцца марнымі справамі"* (2 Тэс 3, 10-11). Дарэчы, праца ў навучанні Касцёла паказана не толькі як абавязак, але і як права, якое ахоўвае годнае жыццё паасобных людзей ды супольнасцей, пачынаючы з сям'і. Паколькі чалавек не з'яўляецца інструментам ці аўтаматам у працэсе стварэння новых даброт, а жывой істотай, то Касцёл навучае пра абавязак дбаць пра самыя розныя патрэбы чалавечай асобы дзеля поўнага яе развіцця. Сярод іх важнае месца займае менавіта адпачынак, якому належыць выдзеліць час. У навучанні ІІ Ватыканскага Сабору чытаем: *"Няхай вольны час будзе належна выкарыстаны для духоўнага адпачынку, умацавання псіхічнага і фізічнага здароўя праз любімыя заняткі і навучанне, праз падарожжы ў іншыя краіны (турызм), дзякуючы якім удасканальваецца розум і людзі ўзбагачаюцца ўзаемным пазнаннем; далей праз спартыўныя спаборніцтвы і практыкаванні, якія таксама і ў грамадстве дапамагаюць падтрымліваць ураўнаважанасць і братэрскія адносіны паміж людзьмі ўсякага стану, нацыянальнасці і розных расаў"* (Пастырская Канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце *Gaudium et spes*, 61).

## На адпачынак з Богам

Вольны час, у тым ліку выезд на адпачынак, павінен служыць чалавеку і спрыяць яго аднаўленню, таму варта так яго запланаваць, каб гэты перыяд паспраўднаму прычыніўся да ўласцівага развіцця сваёй асобы. Гаворка тут ідзе не толькі пра далёкія падарожжы, але і пра звычайны нядзельны адпачынак. Для хрысціяніна, які жыве ў лучнасці з Панам Богам, імкненне да сустрэчы з Хрыстом у Эўхарыстыі, якая здзяйсняецца ў супольнасці Касцёла, – натуральнае і пастаяннае. Найпрасцей кажучы, усё залежыць ад любові!

Закаханыя імкнуцца быць як найчасцей разам фізічна або духоўна таксама тады, калі абставіны ўскладняюць іх блізкасць. У падобнай сітуацыі людзі звычайна выбіраюць розныя спосабы камунікацыі, даступныя дзякуючы сучасным тэхналогіям. Адносіны чалавека з Богам маюць заўсёды духоўны характар, хоць удзельнічае ў іх увесь чалавек – і цела, і душа. Паколькі Бог прысутны ў кожным месцы, то ў любы час мы можам з Ім сустрэцца. Дапамагае нам у гэтым удзел у літургіі, чытанне Божага Слова ды малітва, пра якую нельга забываць ніколі. Адпачынак тут не выключэнне!

Святы Апостал Павел вучыць нас, каб усё рабілі дзеля ўшанавання Бога: *"Ці ясце, ці п'яце, ці нешта робіце, усё рабіце на славу Божую"* (1 Кар 10, 31). Плануючы свой адпачынак, трэба браць пад увагу таксама магчымасць наведаць розныя касцёлы і ўдзельнічаць у нядзельнай святой Імшы. Выезд са сваёй мясцовасці можа паспрыяць духоўнаму і рэлігійнаму развіццю, беручы пад увагу той факт, што падчас адпачынку мы маем звычайна больш часу. Адным словам, на адпачынак едзем з Богам! Прыпамінаюцца мне словы Езуса, скіраваныя да кожнага з нас: *"Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас"* (Мц 11, 28).

## Абавязак удзелу ў святой Імшы

Кананічнае права сцвярджае, што католікі абавязаны ўдзельнічаць у святой Імшы ў нядзелі і абавязковыя святочныя дні (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 1247). Дзеля выканання гэтага абавязку трэба прыняць удзел у Эўхарыстыі ці непасрэдна ў сам святочны дзень, ці напярэдадні вечарам (пар. *Кодэкс Кананічнага Права*, кан. 1248, § 1). Пры гэтым праваднаўца дадае, што вернікі могуць выбраць любое месца, дзе здзяйсняецца Імша ў каталіцкім абрадзе.

> **"Кананічнае права сцвярджае, што католікі абавязаны ўдзельнічаць у святой Імшы ў нядзелі і абавязковыя святочныя дні"**

Бываюць, аднак, сітуацыі, калі фізічна немагчыма ўдзельнічаць у святой Імшы ў каталіцкай супольнасці. Тады дазваляецца прымаць удзел у Эўхарыстыі ў некаталіцкіх касцёлах, дзе сапраўдныя сакраманты (пар. *Кодэкс Кананічнага Права*, кан. 861, § 2). Такім Касцёлам ёсць, напрыклад, Праваслаўная Царква. Калі ж у выніку слушнай прычыны няма ніякай магчымасці патрапіць на святую Імшу ў нядзелю ці свята, Касцёл заахвочвае, каб вернікі прымалі ўдзел у літургіі Слова ці ў парафіяльным касцёле, ці ў іншым месцы, а таксама прысвяцілі адпаведны час для індывідуальнай або супольнай малітвы (пар. *Кодэкс Кананічнага Права*, кан. 1248, § 2). Той, хто любіць Эўхарыстыю, будзе балюча адчуваць яе адсутнасць ды імкнуцца да духоўнай еднасці з Хрыстом, прагнучы Святой Камуніі. Святы Ян Павел ІІ раіць тым, хто па важнай прычыне не можа быць на Імшы, каб прачыталі чытанні і імшальныя малітвы дадзенага дня, а таксама ўзбудзілі прагненне Эўхарыстыі (пар. Апостальскі Ліст *Dies Domini*, 56). Святы Айцец дадае, што дапамогай у гэтым можа стаць трансляцыя святой Імшы па радыё ці тэлебачанні. Сёння ў кантакце з Божым Словам і ў розных трансляцыях не малое значэнне мае таксама інтэрнэт. Варта яшчэ дадаць, што вернікі могуць звяртацца да свайго пробашча з просьбай пра ўдзяленне дыспенсы ад абавязку ўдзельнічаць у святой Імшы (Пар. *Кодэкс Кананічнага Права*, кан. 1245).

Мэтаю касцельнага наказу ўдзельнічаць у святой Імшы ў нядзелі і абавязковыя святы не з'яўляецца жаданне сабраць як мага больш людзей у касцёле, а толькі дапамога ў адкрыцці і разуменні значэння ды каштоўнасці Эўхарыстыі ў жыцці хрысціяніна (пар. *Катэхізіс Каталіцкага Касцёла*, 2181). Касцёл выразна вучыць, што той, хто добраахвотна занядбоўвае ўзгаданы абавязак, здзяйсняе цяжкі грэх (Пар. *Катэхізіс Каталіцкага Касцёла*, 2181). Калі ж хтосьці па слушнай прычыне не можа быць на святой Імшы, хоць у душы прагне сустрэчы з Эўхарыстычным Хрыстом, то не мае граху.

> **"Вернікі могуць звяртацца да свайго пробашча з просьбай пра ўдзяленне дыспенсы ад абавязку ўдзельнічаць у святой Імшы"**

Чытачам "Каталіцкага Весніка" жадаю ласкі сталага доступу да Стала Божага Слова і Эўхарыстыі, а таксама магчымасці адпачываць у прысутнасці Пана Бога!



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*28 ліпеня адзначае імяніны **айцец Віктар Бурлака**, кусташ Нацыянальнага санктуарыя Маці Божай у Будславе.*

*Шаноўны айцец Віктар! Прыміце нашы шчырыя пажаданні моцнага здароўя, сіл і цярпення, душэўнага спакою і добрага настрою! Божай падтрымкі ва ўсіх справах, шчырых вернікаў на Вашым шляху! Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, памнажае мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні!*

*Шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай святыні, за клопат пра кожнага, за прыемную атмасферу і лагодную ўсмешку! Нізкі паклон Вам, шаноўны святар, за сумесныя малітвы, за дабрыню, за разуменне і цярплівасць!*

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***вернікі Будслаўскай парафіі Унебаўзяцця НПМ з вёсак Яцкавічы, Ілава, Петрачкі, Забегі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

***Шаноўны ксёндз Аляксандр Півавар!*** *Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння, які Вы адзначылі 7 ліпеня!*

*Няхай агеньчык дабрыні да ўсіх людзей, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, гарыць усё Вашае святарскае жыццё! Жадаем Вам, ксёндз Аляксандр, Божага блаславення, моцнага здароўя, шчодрага плёну ў нялёгкай душпастырскай працы, добразычлівых людзей, гатовых заўсёды прыйсці на дапамогу!*

*Мы дзякуем Пану Богу за сустрэчы з Вамі, за змястоўныя казанні, за навучанне Божаму слову, за Ваша добрае і чулае сэрца!*

*Шчасці, Божа, Вашым бацькам за сыноўсвятароў!*

***Данута Голубева,***
***ад імя ўсіх парафіянаў касцёла святога а. Піа ў Лёзне***

## Віншуем!

*Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза Аляксандра Півавара** з Днём нараджэння (7 ліпеня)!*

*Паважаны ксёндз Аляксандр! Жадаем Вам моцнага здароўя, каб доўга служылі людзям, каб вялі за сабой не адно пакаленне, каб дапамагалі знайсці шлях да Бога! Божага блаславення і апекі Маці Божай!*

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***вернікі парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мёрах***

## Хвала Хрысту!

*28 ліпеня адзначае Дзень нараджэння наш ксёндз-пробашч Анджэй Бульчак. Мы, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах, сардэчна віншуем паважанага ксяндза Анджэя, жадаем яму Божай дапамогі ў справе пабудовы новага касцёла для нашай парафіі, зычым апекі Панны Марыі! Мы бачым і цэнім адданасць нашага святара Божай справе, яго жаданне дапамагчы людзям знайсці дарогу да Пана Бога, каб усе мы былі адной дружнай сям'ёй з нашым адзіным Айцом. Дзякуем нашаму ксяндзу за шчырасць і адданасць, за малітвы і павагу да людзей!*

***З удзячнасцю,***
***вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (Паставы)***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – Б; 2 – Б; 3 – В; 4 – В; 5 – В; 6 – Б; 7 – Б; 8 – В

## Віншуем!

***Айцец Вадзім Мізер MIC*** *з парафіі святога Юзафа ў Оршы 21 ліпеня адзначае Дзень народзінаў.*

*Ад імя парафіян касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Друі прыміце, шаноўны ксёндз Вадзім, нашы сардэчныя пажаданні. У кожную хвіліну жыцця зычым Вам дапамогі Пана Бога, няхай Дух Святы натхняе Вас на плённую святарскую службу! Невычэрпнага, моцнага здароўя, светлай радасці і шчодрай ласкі Маці Божай Вам і Вашым родным!*

## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз Яўген Міхайлаў**! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з нагоды Вашага дня нараджэння (22 ліпеня) і дня святарскага пасвячэння (25 ліпеня).*

*Дзякуем Вам за Вашае адданае служэнне Касцёлу, за тлумачэнне Божага Слова, за мудрыя і павучальныя казанні, якія кранаюць нашыя сэрцы і пакідаюць цудоўны след у нашых душах, за навяртанне і ўзмацненне ў веры! Няхай Ваша святарская паслуга будзе згодная з воляй Бога! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы.*

*Хай Дух Святы вядзе Вас дарогай мудрасці і ўмеласці, Божая Маці хай заўсёды дадае сіл, надзяляе цярпеннем і ахінае сваёй мацярынскай любоўю! Усіх Вам Божых ласкаў!*

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***вернікі Лучайскай парафіі (аг. Навасёлкі, капліца Божай Міласэрнасці)***

## Хвала Хрысту!

*16 ліпеня гадавіну святарскага пасвячэння адзначае наш любімы **ксёндз Генадзь Ляўкоў**.*

*Мы, вернікі Друсвяцкай парафіі Святых Апосталаў Пятра і Паўла, хочам выказаць найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця, задавальнення ад душпастырскай працы, шчодрай Божай ласкі, апекі Маці Божай і святога Заступніка, радасці ў святарстве, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху!*

*Няхай Усемагутны Божа Вас ніколі не пакідае, а Маці Божая хай ахіне Вас сваёй апекай на доўгія гады святарскага служэння людзям і Богу!*

*Нашы віншаванні і самыя найлепшыя пажаданні таксама Вашым бацькам! Здароўя ім на доўгія гады і наша сардэчная падзяка за выхаванне такога слаўнага сына-святара!*

***Вернікі парафіі***
***Святых Апосталаў Пятра і Паўла,***
***Друсвяты (Браслаўскі раён)***

## Шаноўны ксёндз Юрый Жаўняровіч!

*Сардэчна віншуем Вас з нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння (5 жніўня)! Дзякуем Пану Богу, што даў нам такога духоўнага настаўніка.*

*Шчыра жадаем Вам, паважаны ксёндз Юрый, заўсёднай апекі святога заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, светлага настрою і поспехаў у працы! Няхай Добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, адорыць патрэбнымі ласкамі і ўзмоцніць Вас! Няхай Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён!*

***Вернікі Замошскай парафіі***

## Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!



*Ад імя многіх вернікаў парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах дазвольце павіншаваць Вас з імянінамі (28 ліпеня) і пажадаць Вам Божага блаславення і апекі Маці Божай у святарскім служэнні, а таксама плёну ў Вашай творчай дзейнасці! Мы ўсе ўдзячныя Вам за цудоўнае выданне – "Каталіцкі Веснік", які вельмі дапамагае нам у духоўным жыцці! Дзякуем за карысныя і цікавыя матэрыялы ў газеце, за патрэбную інфармацыю!*

***Аліцыя Трафімовіч (Паставы)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем нашага былога пробашча ксяндза Мікалая Ліпскага з Днём нараджэння (3 жніўня)!*

*Жадаем Вам, шаноўны ксёндз Мікалай, Божых ласкаў, здароўя, патрэбных сіл у Вашым служэнні Касцёлу і людзям, дароў мудрасці, мужнасці і розуму!*

*Няхай Маці Божая і Дух Святы напаўняюць Ваша жыццё верай, надзеяй і любоўю!*

***Удзячныя вернікі Лучайскай парафіі***

# Езус мяне аздаравіў!

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Гадоў дваццаць ці нават больш я хварэла на рэдкую скурную хваробу. Да якога лекара я ні звярталася, прызначаныя лекі не дапамагалі. Мучылі балячкі і зуд. Дзеці параілі звярнуцца ў бальніцу ў Віцебск. Там я сустрэла ветлівых лекараў. Ставілі мне дыягназ за дыягназам, адзін страшнейшы за іншы... Я ўжо думала: хто ж мяне вылечыць, калі хвароба так застарэла?!

Неяк раней я была ў касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску. Жанчына, якая сядзела побач, дала мне кніжачку "Адкупіў Ты нас, Пане, Крывёю сваёй" і ружанец. Сказала толькі: "Маліся!" Я ўзяла, перачытала, вельмі спадабалася. У бальніцу я таксама ўзяла ружанец і гэтую кніжачку.

І вось пачалі мяне лячыць, а я прасіла Бога: "Вылечы мяне, Божа, а я прыеду дамоў і збяру людзей на малітву на ружанцы да Крыві Езуса!" Пачалося маё духоўнае і цялеснае выздараўленне. На вачах зніклі балячкі, пачырванение, зуд. Я шчыра малілася і малілася. За дзевятнаццаць дзён захворванне знікла. Цяпер я сведка таго, як Езус можа вылечыць любую хваробу, толькі трэба верыць Яму і прасіць пра дапамогу. Я здаровая і Хвала Богу! Цяпер маю дзве карысці: веру Пану і молімся разам з людзьмі на ружанцы. Калі хто яшчэ захоча маліцца да Крыві Езуса Хрыста, я вышлю малітву.

***Альдона Сіўко, в. Забалоцце***
***(Мёрскі р-н, Віцебская вобл.)***

# Ты толькі вер...




Ты толькі вер, ты толькі не здавайся
У гэты час нялёгкі для цябе.
На Бога ўсім сэрцам спадзявайся –
І злы тваёй надзеі не скрадзе!

Ты толькі вер, што ўсё невыпадкова,
І для самоты момант існуе.
Няхай падтрымкай выступае Слова,
І моцы духу болей надае!

Жыццё няспынна, хутка пралятае,
Не затрымаць імгненняў агенькі....
Усё, што на шляху тваім трапляе
З удзячнасцю і вераю прымі!

Бо пройдзе час – ў яго няма паўтораў,
Пра штосьці, мабыць, будзеш шкадаваць...
Жыццё не раздае дарэмна роляў,
Таму прымай, што дадзена прыняць!

*Юлія Голубева-Кісялевіч*

# Ці выступае рэлігія супраць навукі?

**І ў нашыя дні ўсё яшчэ можна пачуць думку, што рэлігія супярэчыць навуцы. Некаторыя "знаўцы" сцвярджаюць, што сапраўдны навуковец не можа быць вернікам і наадварот. Ці сапраўды гэта так? Паспрабуем адказаць у гэтым матэрыяле на прыкладзе некаторых выбітных гістарычных асобаў.**

Кажучы "рэлігія" ў гэтым артыкуле, я маю на ўвазе перадусім хрысціянства і ў прыватнасці каталіцтва. Вядома, некаторыя іншыя рэлігіі могуць уваходзіць у канфлікт з рацыянальнай думкай навукі. Але гэта дакладна не каталіцкае хрысціянства! Чаму?

Таму што ў гісторыі каталіцтва ёсць даўняя традыцыя супрацоўніцтва навукі і рэлігіі. Магчыма, не кожны наш чытач ведае, але імклівы росквіт навукі адбыўся ў свой час якраз-такі на хрысціянскім Захадзе, дзе пастулаты хрысціянскай тэалогіі заклалі асновы росквіту навукі. Каталіцкі Касцёл заўсёды падтрымліваў і працягвае падтрымліваць асноўныя галіны навук. Многія навукоўцы былі не проста вернікамі, але належалі да духавенства, былі святарамі або манахамі. Яны дакладна разумелі, што ісціна, якая б яна ні была – навуковай ці рэлігійная – мае адзін выток: Бога, Які сам у сабе просты і не супярэчлівы.

## Жорж Лемэтр



**Жорж Лемэтр (1894–1966) – бельгійскі каталіцкі святар, астраном і матэматык.**

Айцец Жорж Лемэтр распрацаваў тэорыю "Вялікага выбуху", якая навукова тлумачыць утварэнне Сусвету. Ён з'яўляецца аўтарам тэорыі пра Сусвет, які пашыраецца. Цікава, што ў свой час іншы вядомы навуковец Альберт Эйнштэйн раскрытыкаваў тэорыю Лемэтра пра "Вялікі выбух", назваўшы яе жудаснай. І толькі пасля таго, як Эдвін Хабл даказаў, што ўсе галактыкі разлятаюцца ў Сусвеце адна ад адной, Эйнштэйн прызнаў рацыю Лемэтра і ў 1931 годзе падтрымаў тэорыю пашыральнага Сусвету. Тэорыя "Вялікага выбуху" айца Лемэтра па сённяшні дзень з'яўляецца самай папулярнай касмалагічнай мадэллю Сусвету. У 1936 годзе айцец Жорж Лемэтр быў абраны членам Папскай акадэміі навук, у 1960 годзе быў прызначаны яе прэзідэнтам і займаў гэты пост аж да сваёй смерці.

## Роджэр Бэкан



**Роджэр Бэкан (1214–1292) – манах-францішканін, прафесар Оксфардскага ўніверсітэта.**

Займаўся матэматыкай, хіміяй і фізікай, у доследах распрацаваў новыя тэорыі пра павелічальныя шклы, вывучаў мовы. Першы з еўрапейцаў падрабязна апісаў спосаб вырабу пораху, прадбачыў стварэнне чалавекам лятальных апаратаў і караблёў з рухавіком. Яго часта называюць прадвеснікам сучаснай навукі. У 1935 годзе імем Роджэра Бэкана быў названы кратар на Месяцы.

## Нільс Стэнсан



**Нільс Стэнсан (1638–1686) – каталіцкі біскуп, дацкі анатам і геолаг.**

Навярнуўся ў каталіцтва з лютэранства, стаў святаром, пазней біскупам. У 1660 г. Нільс адкрыў і навукова апісаў анатамічную структуру, якую сёння называюць паводле прозвішча навукоўца "стэнсавым пратокам". Гаворка пра слінавы праток калявушнай слінной залозы. Адной з заслугаў у анатоміі Стэнсана ёсць грунтоўнае тлумачэнне ролі і прынцыпу дзейнасці мускулаў.

У палеанталогіі і геалогіі ён займаўся даследаваннем акамянеласцяў і мінералаў, а таксама распрацаваў прынцыпы стратыграфіі – галіны геалогіі, якая даследуе скальную пароду і вызначае яе ўзрост. У крышталаграфіі сёння вядомы закон Стэнсана, які сцвярджае, што вуглы паміж адпаведнымі гранямі крышталаў аднолькавыя для ўсіх экзэмпляраў аднаго крышталя пры аднолькавых умовах (тэмпература і ціск). У 1988 годзе Папа Ян Павел II абвясціў Нільса Стэнсана бласлаўлёным.

## Мікалай Капернік



**Мікалай Капернік (1473–1543) – польскі астраном, матэматык, механік, эканаміст эпохі Адраджэння.**

Быў каталіцкім канонікам. Сфармуляваў мадэль Сонечнай сістэмы, змясціўшы Сонца ў цэнтр, вакол якога рухаюцца планеты. Публікацыя геліяцэнтрычнай мадэлі адбылася незадоўга да яго смерці ў кнізе "Аб кручэнні нябесных сфераў". Гэтая падзея была вельмі значнай у гісторыі сусветнай навукі. Папа Грыгорый XIII карыстаўся навуковым здабыткам Каперніка падчас рэформы календара ў 1582 годзе. Большасць свайго жыцця Капернік правёў у якасці каноніка катэдры ў Фромбарку ў Польшчы.

## Блез Паскаль



**Блез Паскаль (1623–1662) – французскі матэматык, механік, фізік, літаратар, філосаф і тэолаг.**

Адзін з вынаходнікаў матэматычнага аналізу, тэорыі верагоднасцей і праектыўнай геаметрыі. Вынайшаў механічны калькулятар. Вядомы тым, што напісаў кнігу "Думкі…" – серыю філасофскіх і тэалагічных запісак у абарону хрысціянства. Усе ведаюць скарачэнне Ра (Паскаль), якое ў фізіцы абазначае ціск. Адна з моваў камп'ютарнага праграмавання атрымала таксама назву "Паскаль" у гонар выбітнага каталіцкага навукоўца.

## Грэгар Мендэль



**Грэгар Мендэль (1822–1884) – аўстрыйскі біёлаг, батанік, манах-аўгустыянец, абат, заснавальнік генетыкі.**

Адкрыццё ім заканамернасцяў спадчыннасці манагенных прыкметаў (сёння вядомыя як законы Мендэля) стала першым крокам на шляху да сучаснай генетыкі. Цікава, што ў свой час, здаючы экзамен на тытул выкладчыка, ён атрымаў незадавальняючыя адзнакі па біялогіі і геалогіі. Што, аднак, не перашкодзіла яму зрабіць ашаламляльныя навуковыя адкрыцці, калі ён быў манахам кляштара ў горадзе Старэ Брно.

## Мэры Кенэт Келер



**Мэры Кенэт Келер (1913–1985) – амерыканская манахіня, педагог і наватар у галіне інфарматыкі.**

У 1965 годзе абараніла доктарскую дысертацыю па інфарматыцы ў Вашынгтонскім універсітэце. Сястра Мэры належала да каталіцкага ордэна Сясцёр Міласэрнасці Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэта, аднак, не перашкодзіла ёй у 1958 годзе працаваць у навуковым камп'ютарным цэнтры ў Дартмуцкім каледжы, дзе тады працавалі адны толькі мужчыны. Брала ўдзел у даследаваннях па распрацоўцы мовы праграмавання Бэйсік. Актыўна падтрымлівала ідэю заангажаванасці жанчын у сферу інфарматыкі. Заснавала навуковы камп'ютарны аддзел у Кларк Каледж (сёння – Кларкскі ўніверсітэт).




*Апрацаваў кс. Віктар Місевіч*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Бреніслава Юран** *(Браслаў)*, **Галіна Жылевіч** *(Камянчане)*, **Канстанцін Кузміч** *(Варапаева)*, **Казіміра Сіндровіч** *(Падсвілле)*, **Драневіч** *(Малая Сырмеж)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Галіна Яблонская** *(Ёды)*, **Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Юзэфа Красоўская** *(Маладзечна)*, **Крысціна Курэц** *(Паставы)*, **Шчалкун** *(Празарокі)*, **Марыя Тупека** *(Дзеркаўшчына)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Зенона Алексіна** *(Браслаў)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч
вул. Савецкая, 1
211793 г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя
"Каталіцкага Весніка"*

**Увага!** Усе ахвярадаўцы, якія даслалі свае ахвяраванні пасля 11 ліпеня, будуць пазначаны ў жнівеньскім нумары. Прабачаемся за нязручнасці.

# Укленчванне і паклоны: пытанне святару

***"Часта бачу, як у касцёлах некаторыя людзі кленчаць на адно калена. Ці можа так быць? Што кажа пра гэта Касцёл і як да гэтага ставіцца?"***
*Іра*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Хвала Хрысту! Паспрабую лаканічна адказаць на Вашае пытанне. Пра ўкленчванне і паклоны мы можам даведацца з Агульных уводзінаў да Рымскага Імшала для дыяцэзій у Беларусі.

Укленчванне і паклоны 274. Укленчванне, якое адбываецца праз згінанне правага калена да зямлі, азначае пакланенне. Таму яно прызначаецца Найсвяцейшаму Сакраманту і Святому Крыжу ў перыяд ад урачыстай адарацыі падчас літургіі на ўшанаванне Мукі Пана ў Вялікую пятніцу аж да пачатку Пасхальнай вігіліі. На Імшы, цэлебруючы, святар кленчыць тры разы, а менавіта: пасля паднясення Гостыі, пасля паднясення келіха і перад Камуніяй. Асаблівасці, якія належыць захоўваць на канцэлебраванай Імшы, адзначаюцца ў адпаведных месцах (пар. №№ 210-251).

Калі ў прэзбітэрыі ёсць табэрнакулюм з Найсвяцейшым Сакрамантам, святар, дыякан і іншыя, хто прыслугоўвае, кленчаць, калі падыходзяць да алтара альбо адыходзяць ад яго, але не падчас самой цэлебрацыі Імшы. У іншых выпадках усе кленчаць, калі праходзяць перад Найсвяцейшым Сакрамантам, калі толькі яны не ідуць у працэсіі. Тыя, хто прыслугоўвае, хто нясе працэсійны крыж альбо свечкі, не кленчаць, а толькі схіляюць галаву.

275. Паклон азначае ўшанаванне і павагу, якую аддаюць самім асобам альбо таму, што іх азначае ці выяўляе. Ёсць два віды паклонаў, а менавіта: схіленне галавы і схіленне ўсяго цела.

Галаву схіляюць тады, калі разам называюцца тры Боскія Асобы, а таксама імя Езуса, Найсвяцейшай Панны Марыі і святога, у гонар якога цэлебруецца Імша.

Схіленне ўсяго цела, альбо нізкі паклон, робіцца: перад алтаром; падчас малітваў "Усемагутны Божа, ачысці сэрца маё і вусны мае" і "Прымі, Пане Божа, нас"; пры вызнанні веры на словы: "І ўцелавіўся"; у Рымскім каноне на словы: "Пакорна просім Цябе". Такі ж паклон робіць дыякан, калі просіць благаслаўлення перад абвяшчэннем Евангелля. Апрача таго, святар крыху схіляецца пры кансэкрацыі, калі прамаўляе словы Пана. Трэба таксама адрозніваць кленчанне ад укленчвання. Падчас укленчвання вернік становіцца на правае калена і не чыніць ніякіх жэстаў, напрыклад, знак Святога Крыжа.

Кленчанне на двух каленях – гэта жэст пашаны Эўхарыстычнаму Хрысту. Варта памятаць: калі ўкленчваю, то не кланяюся. Калі кланяюся, то не ўкленчваю. Тут няма патрэбы дубляваць жэсты, бо наша любоў і пашана Пану Богу выражаецца праз укленчванне або праз паклон. Дарэчы, у літургіі паклон з'яўляецца больш старажытным жэстам ад сярэднявечнага ўкленчвання, якое ўвайшло ў літургію як знак пакуты і перапрашэння, а таксама падчас распаўсюджвання культу Хрыста, прысутнага ў Найсвяцейшым Сакраманце.

**Памятайма! Гэта не нейкія магічныя жэсты, але жэсты нашай любові да Бога.** Няўкленчванне і някленчанне перад табэрнакулюмам не з'яўляецца грахом. Таксама як не з'яўляецца грахом, калі я не скажу камусьці "добры дзень" або "дзякуй". Гэта звычайны недахоп культуры. Хіба нікога не трэба пераконваць у тым, што варта ўмець сябе паводзіць за сталом. Асабліва каля стала Пана!



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**29 ліпеня 2018 г.**
***Ян 6, 1-15***

Езус – чаканы Месія – павінен быў прыйсці на зямлю. Ён размножыў хлеб, каб накарміць галодных. Звярніце ўвагу: Езус асабіста раздае хлеб. Гэта падзея якраз і сведчыць пра Езуса як пра чаканага Прарока. У Старым Запавеце менавіта Бог корміць ізраільцянаў хлебам нябесным – маннай. Ён пасылае крумкача, каб той прынёс Іліі хлеба. Размнажэнне хлеба – гэта знак, што Езус – Бог. А яшчэ гэта рыхтуе ўсіх нас да далейшых радкоў, дзе сказана пра сапраўдны Хлеб з неба – Цела Хрыста.

*– Хто для мяне Езус Хрыстус?*

*– Ці прыняў я Яго як чаканага Збаўцу?*

*– Ці Ён мой Бог і мой Пан?*

*– Ці заўважаю я Божае благаслаўленне ў сваім жыцці?*

*– Ці дзякую Богу за ўсё, што атрымліваю?*

*– Ці ўспамінаю пра асабліва важныя і патрэбныя дары ад Бога?*

*– Ці праслаўляю Яго?*

*– Ці захапляюся Ім і Яго любоўю?*

*– Ці веру, што Бог бачыць мае патрэбы і мой голад?*

*– Ці веру, што Бог асабіста клапоціцца пра маё дабро?*

*– Ці слухаю я, што Езус гаворыць пра Сябе?*

*– Ці не стаўлюся я да Езуса карысліва, прагнучы размнажэння хлеба толькі для сябе?*

*– Ці не затрымалася мая вера на спажывецкіх адносінах да Бога?*

*– Ці разумею, што я запрошаны для сапраўдных і глыбокіх адносінаў з Богам?*

*– Ці не хачу я ўпарта падпарадкаваць Бога свайму ўяўленню пра Яго, а калі не атрымліваецца, то крыўджуся на Яго?*

**5 жніўня 2018 г.**
***Ян 6, 24-35***

Вера – гэта не прызнанне чагосьці незвычайнага, што мы ўбачылі. Вера – гэта разуменне таго, што Бог аб'яўляе нам праз незвычайныя здарэнні. Сабраныя каля Езуса прыйшлі не для таго, каб спаткацца з Месіяй, з Божым Чалавекам. Іх прываблівае хлеб. Езус хоча падняць гэтую сустрэчу на найвышэйшы ўзровень. Людзі, якія бачылі знак, прагнуць наступнага знаку. Іх не цікавяць Божыя справы, а толькі цуды. Яны не разумеюць нават гісторыі Ізраэля, кажучы, што Майсей даў хлеб з неба. Тым часам гэта Бог праз Майсея карміў свой народ і зараз прыйшоў асабіста ў Хрысце, Які з'яўляецца сапраўдным Хлебам з неба. Ён накорміць усіх галодных і натоліць смагу ўсіх, хто прагне.

*– Ці бачу я незвычайныя здарэнні ў сваім жыцці?*

*– Ці змог я ўбачыць у гэтыя хвіліны Божую дабрыню і клопат пра мяне?*

*– Ці таксама я, як неразумныя ізраільцяне, прагну ўсё новых і новых цудаў замест таго, каб паспрабаваць зразумець, што Бог гаворыць праз іх?*

*– Ці слухаю Бога?*

*– Ці размаўляю з Ім на малітве?*

*– Ці разважаю над Бібліяй?*

*– Ці пачуў я, ці зразумеў і паверыў, што Езус – гэта Хлеб майго жыцця?*

*– Ці разумею, што Ён ува мне?*

*– Ці разумею, што без Яго я памру?*

*– Ці разумею, што без Яго няма ніякага развіцця?*

*– Ці прыходжу да Яго?*

*– Ці хаджу на Святую Імшу?*

*– Ці веру ў Яго?*

*– У чым гэта выяўляецца?*

**12 жніўня 2018 г.**
***Ян 6, 41-51***

Езус гаворыць да сабраных вакол Яго людзей, што Ён з неба, але яны не разумеюць Яго. Ён адкрывае ім таямніцу Сваёй боскасці. Разумеючы, што гэта іх бянтэжыць, Езус кажа, што дар веры – гэта ласка ад Айца. Гэтая ласка прыводзіць чалавека да веры, аднак чалавечая упартасць можа зрабіць такую ласку дарэмнай. Езус заклікае не абурацца і не наракаць. Верыць – гэта бачыць у Езусе прысутнасць Бога. Езус для гэтага і прыйшоў, каб прыцягнуць нас да Айца і даць жыццё вечнае. Гэта не тэарэтычныя спрэчкі жыдоў пра прынцыпы іх рэлігіі. Вера – прыняцце Езуса, Які дае жыццё вечнае. Гэта гарантыя вечнага збаўлення. Менавіта пра гэта і гаворыць Езус.

*– Я веру?*

*– Якая якасць маёй веры?*

*– Ці малюся аб дары веры для сябе і сваіх бліжніх?*

*– Ці дзякую за дар веры?*

*– Ці не думаю пасвятатацку, што без веры было б зручней?*

*– Ці карыстаюся ласкай, якую дае Пан Бог, каб умацаваць маю веру?*

*– Ці не ўпарчуся?*

*– Ці прымаю Божыя натхненні?*

*– Ці не марную таго, што Бог ува мне выгадаваў?*

*– Ці бачу Божую прысутнасць?*

*– Ці шукаю знакаў Яго прысутнасці?*

*– Ці іду да Езуса з просьбай, каб прывёў мяне да Бога ў Святой Тройцы?*

*– Ці дазваляю Яму быць маім Настаўнікам і Кіраўніком?*

*– Ці веру ў Яго? Яму? Яго Слову? Яго Любові? Яго Мудрасці?*

*– Ці веру, што Ён дасць мне жыццё вечнае?*

*– Ці разумею, што якасць маёй веры – вельмі важная справа, якая напрост звязана з маім збаўленнем?*

*– Ці разумею, што няма нічога больш важнага, чым мая еднасць з Езусам?*

**19 жніўня 2018 г.**
***Ян 6, 51-58***

Езус абяцае даць Сваё Цела як ежу для жыцця. Гэта абуджае здзіўленне і непаразуменне. Езус у Евангеллі святога Яна адкрывае для нас новыя прасторы веры, падымае на новы духоўны ўзровень. Езус тлумачыць неабходнасць спажывання Свайго Цела для вучняў як галоўную ўмову жыцця Бога ў нас і жыцця вечнага. Калі мы трываем у еднасці з Езусам, то яна ажыўляе нас моцай Езуса, з Якім мы з'ядналіся. Гэта вечная ежа. Яна падтрымлівае ў нас жыццё вечнае.

*– Ці рэгулярна я ўдзельнічаю ў Святой Імшы?*

*– Як удзельнічаю?*

*– Ці чытаю пра Святую Імшу і ці вучуся штораз лепш у ёй удзельнічаць?*

*– Ці прымаю Цела Хрыста?*

*– Ці спавядаюся і без смяротнага грэху прымаю Святую Камунію?*

*– Ці малюся падчас Святой Камуніі і ці размаўляю з Езусам, Якога прымаю да свайго сэрца?*

*– Ці клапачуся, каб жыць у пасвячальнай ласцы, г.зн. без смяротнага грэху?*

*– Ці разумею, што прыманне Цела Хрыста – гэта не святочны абрад, але сапраўдная ежа для маёй душы?*

*– Ці памятаю, што гэта дарога да вечнага збаўлення?*

*– Ці не лічу ўдзел у Святой Імшы і прыняцце Святой Камуніі надмернай рэлігійнасцю?*

*– Ці веру, што еднасць з Езусам у Эўхарыстыі, г.зн. прыняцце Цела Хрыста з чыстым сэрцам – гарантыя майго збаўлення?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк,***
*Віцебск*

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

Дарагі сябра! Тэма сённяшняй "Пазнавайкі" - сяброўства!

## Біблія пра сяброўства!

Будзь уважлівым у выкананні наступнага задання. Зрабіўшы яго, ты даведаешся, якія цудоўныя словы напісаны ў Святым Пісанні пра сяброўства!

Выпішы па парадку ўсе словы толькі з шарыкаў.




---------------------------

---------------------------

## Знайдзі аднолькавыя малюнкі

Перад табою 5 малюнкаў. На іх ты бачыш самых сапраўдных сяброў. Разам яны вучацца і адпачываюць, ходзяць у касцёл і на заняткі па рэлігіі. Любыя рашэнні яны заўсёды прымаюць разам, заўсёды дапамагаюць адзін аднаму і ніколі не сварацца.

Табе, гледзячы ўважліва на гэтыя амаль усе розныя малюнкі, трэба знайсці аднолькавыя. Лічбы аднолькавых малюнкаў запішы тут ________.




## Устаў прапушчаныя літары

Перад табою словы, якія апісваюць, якім павінна быць сапраўднае сяброўства. Аднак у гэтых словах не хапае некаторых літар. Таму на месцы шматкроп'я ўстаў патрэбныя літары.




беск...рыслівае ...чырае

блі...кае в...лікае узаемна...е

сапра...днае

## Які шлях правільны?

Дзяўчынка Каця пасварылася з сяброўкай. Што ёй рабіць? Паглядзі ўважліва і вырашы, які шлях будзе правільны?

Растлумач, чаму ты выбраў (выбрала) менавіта гэты шлях?



## Які я сябар?

Перад табою змешчаны спіс, дзе паказана, якім сябрам цябе хоча бачыць Езус. Ці ёсць у цябе гэтыя якасці? Калі так, стаў насупраць адпаведнага слова +, а калі не -.

Калі выканаеш заданне, паразважай, якіх сяброўскіх якасцей табе не хапае? Над чым яшчэ табе трэба папрацаваць?




## Святая Альжбета Партугальская



**Святая Альжбета** нарадзілася каля 1271 года ў Іспаніі. Рана была выдадзена замуж за партугальскага караля і стала каралевай. Усё жыццё Альжбета фінансава падтрымлівала касцёлы і манастыры ў сваёй краіне, будавала шпіталі, дзіцячыя дамы і прытулкі, вялікую частку маёмасці раздала бедным. Пасля смерці мужа Альжбета ўступіла ў Трэці ордэн святога Францішка. Яна памерла 4 ліпеня 1336 года і была пахаваная ў заснаваным ёю манастыры святой Клары. Святая Альжбета з'яўляецца апякункаю Партугаліі. Яе заступніцтва просяць для прадухілення небяспекі вайны.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***




# Байкеры запрашаюцца ў мотапілігрымку Браслаў – Росіца

**Трэцяя пілігрымка матацыклістаў да месца спалення росіцкіх пакутнікаў і жыхароў вёскі нямецка-фашысцкімі захопнікамі адбудзецца 3 жніўня. Ксёндз Уладзімір Шыдлоўскі SDS шчыра запрашае ўсіх ахвотных байкераў.**

Атрымаць дадатковую інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне:
+375 (29) 577 00 38
кс. Уладзімір.

### План пілігрымкі:

**14.00** – збор каля касцёла ў Браславе. Кава, пачастунак;
**15.15** – малітва ў касцёле за памерлых жыхароў Росіцы і загінулых матацыклістаў;
**15.30** – выезд;
**17.30** – прывітанне матацыклістаў у Росіцы;
**18.00** – святая Імша, вячэра. Вяртанне ў Браслаў.

Ініцыятар і арганізатар пілігрымкі ксёндз Уладзімір адзначае, што пілігрымка – гэта заўсёды шлях у санктуарый: ці то пешшу, ці на аўтобусе, ці на матацыклах. Для супольнасці байкераў – гэта таксама і магчымасць духоўнага ўзросту, тым больш што ў дзвюх папярэдніх мотапілігрымках прымалі ўдзел не толькі католікі, але і праваслаўныя.

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**
**Catholicnews.by**

# Айцы-марыяне запрашаюць на ўрачыстасці ў Росіцу

**Святкаванне чарговай гадавіны беатыфікацыі мучанікаў Юрыя і Антонія адбудзецца 3-4 жніўня.**

Урачыстасці ў гонар марыянскіх блаславёных святароў, як заўсёды, распачнуцца вечарам у пятніцу а 18 гадзіне Імшой для пілігрымаў. Малітоўная праграма будзе трываць усю ноч і закончыцца ў суботу Святой Імшой а 12 гадзіне.

У Росіцу традыцыйна пойдуць пешыя пілігрымкі. Запрашаем прыняць у іх удзел:

Полацк – Росіца (4 дні) – з 31.07 па 03.08, запіс – а. Аляксандр +375 29 713 02 33.

Друя – Росіца (3 дні) – з 1.08. па 03.08, запіс – а. Канстанцін +375 33 370 88 19.

Прыехаць у Росіцу, якая знаходзіцца ў памежнай зоне, можна, маючы пры сабе пашпарт.

### План урачыстасцяў

**Росіца 3-4 жніўня 2018**

**Пятніца, 3 жніўня**

**18.00** – Святая Імша для пілігрымаў.
**19.40** – Акафіст (вернікі Грэка-каталіцкай Царквы).
**20.30** – Ружанец з разважаннямі, таямніцы радасныя. Праводзяць пілігрымы.
**21.50** – Нешпары за памерлых.
**22.30** – Адарацыя (малітва праслаўлення).

**Субота, 4 жніўня**

**24.00** – Урачыстая Святая Імша.
**02.00** – Працэсія на пляц мучаніцтва і адарацыя Крыжа.
**03.30** – Росіцкі крыжовы шлях.
**06.00** – Гадзінкі да Найсвяцейшай Марыі Панны.
**06.30** – Літургія Усходняга абраду (вернікі Грэка-каталіцкай Царквы).
**08.00** – Ютрань.
**09.00** – Ружанец з разважаннямі, таямніцы балесныя. Праводзіць Рух "Маці ў малітве".
**10.00** – Прэзентацыя цэнтра дапамогі "Светач".
**11.00** – Адарацыя. Ружанец з разважаннямі, таямніцы хвалебныя.
**12.00** – Урачыстая святая Імша Te Deum laudamus.



# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасылаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**

**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**

**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**

**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Веста заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***




*Каталіцкі* ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4782

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.07.2018 г. у 13.25



**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1,
г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by



ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь